ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ ЛІТАРАТУРА МАСТАЦТВА

19-25 ЧЭРВЕНЯ 1993г № 25 (3695)






Фрагментамі сваёй адметна-настраёвай, атмасфернай, вытанчана-шляхетнай пазаконкурснай праграмы «Кава на дваіх» **Ларыса МІКУЛІЧ** і **Алег ЖУГЖДА**, магілёўскія ўдзельнікі Беларускага міжнароднага лялечнага фестывалю, кранулі самыя пакрыёмыя стрункі міжнароднай глядацкай уразлівасці. Фрагментамі — таму што прэм'ера праграмы мае адбыцца ў верасні, а драмам, трагедыям і недарэчнасцям з лялечнага жыцця нібы самім лёсам наканавана праілюстраваць, так бы мовіць, праявы ў адпаведных жанрах з жыцця спадароў лялечнікаў. Мадэль сучаснага дзяржаўнага тэатра, на жаль, ніяк не стасуецца з падобным пачуццёва-інтэлектуальным мастацтвам, — у чымсьці эстэцкім, у нечым — традыцыйна-пазнавальным. Ларыса ды Алег — адметна задуманы, цудоўна распрацаваны, распрыгонена ўвасоблены тэатр... на дваіх. Каб жа Бог даў яму спраўдзіцца...

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Рыскі да творчага партрэта рэжысёра Алега Жугжды пададзены на старонках 10—11. Справаздача пра Міжнародны беларускі лялечны фестываль, які з 20 па 27 мая доўжыўся ў Мінску, «ЛіМ» змесціць у бліжэйшы час.*

*Фота Ірыны ГУДЗІЕЎСКАЙ*

Кола дзён

***Тыдзень поўніўся кепскімі прадчуваннямі, найперш звязанымі з тым, застанецца Беларусь у рублёвай зоне ці ўвядзе ўласную валюту. Блізкае 1 ліпеня /дата, да якой Нацыянальны банк Расіі папрасіў вызначыцца па гэтым пытанні/ стараннямі калег-журналістаў набыло значэнне нейкага Рубікону.***
***Але, калі ўдумацца, чаго мы так усхадзіліся? Большасці насельніцтва будзе вельмі цяжка і так і гэтак. А той, хто ўмее, — «зварыць» свой даляр, як з рубля, так і з чагосьці яшчэ. І нават... з нічога.***

## ПАДЗЕЯ ТЫДНЯ

Адбыўся першы ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь выпуск курсантаў двух беларускіх вайсковых вучылішч: Мінскага вышэйшага каманднага і Мінскага вышэйшага інжынернага. Урачыстая цырымонія ўручэння нагрудных знакаў і дыпломаў маладым лейтэнантам адбылася на плошчы Незалежнасці ў прысутнасці родных, сяброў і знаёмых выпускнікоў.

Дык мо і праўда Узброеныя Сілы Рэспублікі Беларусь пачаліся тым днём — 22 чэрвеня 1993 года?

## ФОНД ТЫДНЯ

Дзеля практычнай рэалізацыі дамоўленасцей, дасягнутых паміж урадамі Беларусі, Расіі, Украіны і Германіі аб выплаце кампенсацыі ахвярам нацыянал-сацыялісцкіх праследаванняў у гады Другой сусветнай вайны ў Мінску ўтвораны фонд «Узаемаразуменне і прымірэнне». У зацверджаным Саветам Міністраў Статуце фонду гаворыцца, што сродкі яго фарміруюцца за кошт фінансавага ўкладу ФРГ, добраахвотных узносаў дзяржаў, фізічных і юрыдычных асоб, банкаўскіх працэнтаў за выкарыстанне часова вольных сродкаў, а таксама іншых фінансавых паступленняў, атрымліваемых за кошт уласнай дзейнасці фонду. Старшынёй фонду прызначаны народны мастак, былы вязень фашысцкага канцлагера М. Савіцкі.

## КАНФУЗ ТЫДНЯ

У пасёлку Коласава Стаўбцоўскага раёна ў мясцовай школе прайшоў арганізацыйны сход будучых першакласнікаў і іх бацькоў. І галоўнае пытанне, якое паўстала на сходзе, было пра мову навучання будучых першакласнікаў. Пытанне гэтае выклікала надзвычай гарачыя спрэчкі. І ў выніку было вырашана, што моваю гэтаю будзе... руская. Вось так! Такое рашэнне прынялі бацькі, пераважна вайскоўцы. Тыя самыя, якія не так даўно прымалі прысягу на вернасць суверэннай Беларусі, якія пакляліся служыць нашаму народу, носьбіту дзяржаўнай беларускай мовы.

## ПАПЯРЭДЖАННЕ ТЫДНЯ

Савет Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі выказаў «катэгарычны пратэст дзеянням урада, яго сённяшняй сацыяльнай палітыцы». Заява гэтая зроблена ў сувязі з чарговым павышэннем цэн. Як вядома, пад націскам прафсаюзаў урад пайшоў на перагаворы і аб'явіў аб некаторых уступках. Але, як лічыць ФПБ, няма гарантый таго, што гэтыя абяцанні будуць выкананы. Узровень жыцця большасці насельніцтва Беларусі ўпаў тым часам больш чым у тры разы. Выйсце з такой сітуацыі, на думку ФПБ, працоўныя павінны шукаць самі. Яно заключаецца ў «масавых арганізаваных выступленнях» рабочых, інтэлігенцыі, студэнтаў, пенсіянераў у сваю абарону. Гэта прымусіць «маючых уладу заняцца як след справай або пайсці і не мучыць народ».

## ЗАЯВА ТЫДНЯ

Паводле заявы выканкама БСДГ, камуністы ў Беларусі зноў вярнуліся да ўлады. «Гэта адбылося, — сцвярджаецца ў дакуменце Грамады, — калі да так званага «Народнага руху Беларусі», куды ўваходзілі ПКБ, КПБ, фракцыя «Саюз» Вярхоўнага Савета, Славянскі сабор, Саюз афіцэраў і іншыя арганізацыі, далучылася праўрадавае дэпутацкае аб'яднанне «Беларусь» Вярхоўнага Савета. Такім чынам, «Народны рух Беларусі» стаў кантраляваць урад, большасць у Вярхоўным Савеце, чым і засведчыў сябе кіруючай сілай на Беларусі».

Лагічна, ці не так?

## КРЫМІНАЛ ТЫДНЯ

Што можа быць цікавага для злодзея ў кабінеце заводскага камітэта /аказваецца, яшчэ ёсць такія кабінеты!/ Саюза моладзі? Пракураная попельніца на стале? Пажаўцелыя паперы ў шуфлядах? Дайце веры, нешта зусім іншае! Як заявіў супрацоўнікам міліцыі лідэр маладзёжнага руху Магілёўскага завода «Тэхнапрыбор», злодзей, які ўлез у ягоны рабочы кабінет, украў ні многа, ні мала, а 4650 амерыканскіх долараў, якія, зноў дайце веры, належалі асабіста гаспадару кабінета.

Кола дзён

# ПАМЯЦЬ ПРА ІХ — СВЯТАЯ

## ЗВАРОТ ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

Шаноўныя суайчыннікі!

Наступны, 1994 год вяртае нас да адной з геаічных старонак мінуўшчыны. 200 гадоў таму нашыя продкі, сумесна з палякамі, пад агульным кіраўніцтвам Андрэя Тадэвуша Касцюшкі, беларуса з паходжання, узняліся на вызвольнае паўстанне супраць іншаземных акупантаў ды іх памагатых. Паўстанцы ішлі ў бой пад сцягамі, на якіх былі словы — Воля, Роўнасць, Незалежнасць.

24 красавіка 1794 года ад расейскіх захопнікаў была вызвалена Вільня, утвораная Найвышэйшая Рада Вялікага княства Літоўскага. Паўстанцкае войска ў Вялікім княстве ўзначальваў генерал Якуб Ясінскі. У змаганні бралі ўдзел усе станы грамадства — шляхта, сяляне, мяшчане, людзі розных веравызнанняў. Колькасць паўстанцаў на Беларусі дасягала 20 тысячаў.

Полымя паўстання ахапіла значную частку краіны. Але барацьба была няроўная. Загартаваная ў захопніцкіх паходах расейская армія Суворава задушыла паўстанне.

Беларускі народ заўжды захоўваў памяць пра гэты гераічны чын і свайго суайчынніка Андрэя Тадэвуша Касцюшку. Пазней яго велічны вобраз натхняў змагароў за свабоду ў 1831 і 1863 гадах, Кастусь Каліноўскі пісаў пра Касцюшку як пра абаронцу інтарэсаў беларускага народа, заклікаў сваіх паплечнікаў быць годнымі славы мужных барацьбітоў 1794 года. Тым самым ён здзейсніў і паказаў пераемнасць вызвольнай традыцыі ў нашай гісторыі.

Імёны Тадэвуша Касцюшкі, Тамаша Ваўжэцкага, Якуба Ясінскага, Міхала Клеафаса Агінскага, Стафана Грабоўскага — святыя для нас. Як святая памяць тых сотняў і тысячаў невядомых беларусаў, што загінулі ці пралілі сваю кроў у бітвах з ворагам пад Вільняй, Гародняй, Берасцем, Кобрынам, Слонімам, Ашмянамі, Смаргонню, Любанню, Браславам, Бабруйскам і Варшаваю. Увекавечыць іх імёны — наш святы абавязак.

Святкаванне юбілею паўстання адбудзецца ў Беларусі ўпершыню. Гэтая падзея павінна аб'яднаць нас вакол вялікай справы Адраджэння. Паходня волі і незалежнасці, запаленая паўстанцамі 1794 года, не павінна згаснуць.

Жыве Беларусь!

**НАЦЫЯНАЛЬНЫ АРГАНІЗАЦЫЙНЫ КАМІТЭТ па святкаванні ў Беларусі 200-х угодкаў ВЫЗВОЛЬНАГА ПАЎСТАННЯ 1794 г.**

# 1945: АДЛІК НОВАЙ ЭРЫ

Мяркуючы па тым, як прайшло ў Мінску і ўвогуле на Беларусі афіцыйнае святкаванне чарговай гадавіны Перамогі, няцяжка прадбачыць, як адсвяткуюць чарговую гадавіну вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў.

Задоўга да Дня Перамогі ў газетах, рэспубліканскіх і мясцовых, пачалі з'яўляцца лісты за подпісамі ветэранаў Вялікай Айчыннай — лісты, напісаныя нібыта па адзіным узоры, нібыта пад капірку. У гэтых творах эпісталярнага жанру ў катэгарычна-патрабавальнай форме выказвалася просьба не вывешваць 9 траўня дзяржаўныя сцягі Рэспублікі Беларусь, бо ў час вайны пад гэтымі сцягамі ваявалі ворагі савецкай улады. А напярэдадні свята камуністычная газета «Мы и время» надрукавала на першай паласе вершык на беларускай мове /!/, у якім абражалася дзяржаўная сімволіка Беларусі і ўхвалялася сімволіка бальшавіцкая.

9 траўня на афіцыйныя цырымоніі камуністы прыйшлі са сцягамі неіснуючых дзяржаў — СССР і БССР. У той жа час у афармленні плошчы Перамогі і ўвогуле праспекта Ф. Скарыны адсутнічалі бел-чырвона-белыя сцягі.

Карэспандэнты радыё і тэлебачання «раскручвалі» сівых ветэранаў на настальгічныя ўспаміны аб тым, як добра жылося пры камуністах, якая вялікая была дзяржава Савецкі Саюз, якая была дружба народаў і гэтак далей. Ну а глядач альбо слухач ужо сам павінен быў зрабіць выснову, што няма ў Беларусі іншага шляху, як назад у СССР.

Можна не сумнявацца, што і 3 ліпеня будзе скарыстаны для прапаганды ідэі адраджэння СССР і «коллективной безопасности», што ворагі беларушчыны не прамінуць магчымасці яшчэ раз аблаяць нашу незалежнасць і нейтральны статус нашай краіны.

Ветэранаў зразумець няцяжка: гэта было іхняе юнацтва. А юнацтва, хай сабе галоднае і халоднае, хай сабе ў акопах на передавой альбо ў партызанскім лесе, усё роўна лепей за старасць.

Хай даруюць мне калегі-журналісты з тэлебачання і радыё, але эксплуатаваць абсалютна натуральна чалавечыя пачуцці /я маю на ўвазе тугу па маладосці/ у палітычных мэтах амаральна.

Гістарычны сэнс мая 1945 года не толькі ў тым, што гэта была перамога Савецкага Саюза над Германіяй. Варта памятаць, і аб тым, што вайна абудзіла ў прыціснутага сталінскай дыктатурай народа патрыятычныя пачуцці. Салдат-франтавік адчуў сябе чалавекам, абаронцам Радзімы і вызваліцелем Еўропы. Ад той пераможнай вясны распачаўся адлік новай эры ў нашай гісторыі, эры Адраджэння.

Май 1945 і жнівень 1991 цяпер ужо непарыўна знітаваны ў гістарычнай свядомасці нацыі. Перамога над фашызмам — перамога над таталітарызмам. Чырвоны сцяг над рэйхстагам — і бел-чырвона-белы над Домам урада ў Мінску.

**П. ВАСІЛЕЎСКІ**

# ЛЕКЦЫЯНАРЫІ І БІБЛЕЙСКІ ПЕРАКЛАД

ТАК НАЗЫВАЎСЯ МІЖНАРОДНЫ МІЖКАНФЕСІЙНЫ НАВУКОВЫ СЕМІНАР, ШТО АДБЫЎСЯ 4—14 МАЯ Ў МІНСКУ ПА ІНІЦЫЯТЫВЕ БЕЛАРУСКАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ, БІБЛЕЙСКАЙ СУПОЛКІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ І АБ'ЯДНАНЫХ БІБЛЕЙСКІХ СУПОЛАК /АБС/.

Разглядаліся пытанні гісторыі царкоўнага тэксту Свяшчэннага Пісання /лекцыянарыі/, складаныя пытанні тэорыі і практыкі перакладу Бібліі на сучасныя мовы розных народаў. У семінары ўзялі ўдзел вядомыя еўрапейскія спецыялісты ў галіне біблейскіх перакладаў са старажытнагебрайскай і грэчаскай моў з Англіі, Францыі, Германіі, Швецыі, Галандыі, Расіі, перакладчыкі, лінгвісты, багасловы з Беларусі, Расіі, Украіны, Казахстана, Чувашыі, Дагестана, Адыгеі — усяго больш за 40 чалавек.

Сярод іх з боку АБС: д-р Мануэль Джынбач'ян /Францыя, каардынатар біблейскіх перакладаў/, д-р Поль Элінгворт /Шатландыя/, д-р Дэвід Кларк /Англія/, святар д-р Сергій Аўсянікаў /Галандыя/, д-р Томас Каут /Швецыя/ — кансультанты перакладаў; д-р Сайман Крысп і д-р Марыана Беерлі-Моор /Стакгольм, Ін-т па перакладзе Бібліі/, праф.Джон Каравідаполус /Грэцыя/, прадстаўнікі Біблейскага аб'яднання Расіі М.Селязнёў і А.Пянткоўскі /Масква/, Славянскага біблейскага фонду /С.-Пецярбург/, Маскоўскага патрыярхата /ігумен Інакенцій Паўлаў/ і інш. Ад Беларусі былі: Мітрапаліт Філарэт, члены Біблейская Камісіі Экзархата, Біблейскай Суполкі Беларусі, аўтары індывідуальных перакладаў А.Клышка і В.Сёмуха, выкладчыкі Мінскай духоўнай семінарыі, сябры Праваслаўнага брацтва Віленскіх мучанікаў.

Адкрываючы семінар, Мітрапаліт Філарэт падкрэсліў, што гэты экуменічны сход для нас вельмі важны, бо дапамога ў перакладзе Свяшчэннага Пісання значыць больш, чым гуманітарная дапамога. Магчымасць мець кожнаму чалавеку слова Свяшчэннага Пісання на сваёй роднай мове, блізкае сэрцу і разуменню, — справа благаслаўленная, яна дапаможа зменшыць драматызм у жыцці сучаснага чалавека, знайсці шлях да Бога.

Галоўны каардынатар біблейскіх перакладаў АБС доктар Мануэль Джынбач'ян — паліглот, вядомы знаўца старажытных моў, расказаў аб перспектыве перакладчыцкай дзейнасці АБС на тэрыторыі Усходняй Еўропы, былога СССР, супрацоўніцтве з біблейскімі суполкамі і камісіямі асобных краін шляхам кансультацыйнай і іншай дапамогі, перадачы вопыту, бо ў свеце існуе ўжо каля 2000 розных біблейскіх перакладаў, вядзецца вялікая работа па ўдасканаленні існуючых. Так, мяркуецца сумесная праца па адраджэнні поўнага славянскага тэксту і пошуку базіснага грэчаскага, з якога калісьці рабіўся пераклад на славянскую мову, удасканаленне рускага сінадальнага перакладу. Работа ў рамках славянскай духоўнай традыцыі, захаванне яе — гэтая новая справа для перакладчыкаў АБС /раней рабілі пераклады для народаў Афрыкі, Амерыкі і інш./. Галоўная праца будзе тут класціся на мясцовых перакладчыкаў саміх славянскіх народаў. Распачата работа па перакладзе Бібліі на мовы малых народаў былога Саюза. У гэтай справе АБС аб'яднаў свае намаганні з Інстытутам біблейскіх перакладаў у Стакгольме /ужо робіцца пераклад на мовы Дагестана/. Вопыт АБС сведчыць, што найбольш плённы шлях для сучасных перакладчыкаў — праца камісій з 5-6 чалавек: 4 гады працы па перакладзе Новага Запавету. Галоўны каардынатар біблейскіх перакладаў адзначыў, што Беларуская Біблейская Камісія першай распачала супрацоўніцтва з АБС у галіне перакладу: было праведзена два сумесныя калёквіумы і за год выдадзены чатырохмоўны варыянт перакладу Евангелля ад Мацвея.

Прадстаўнік Расійскага Біблейскага аб'яднання М.Селязнёў звярнуў увагу на тое, што ў справе біблейскіх перакладаў сустракаюцца шматвекавая традыцыя і сучасная навука, да таго ж пратэстанцкі і каталіцкі Захад пачынае знаёміцца з праваслаўнай рэлігійнай традыцыяй, з вопытам свята айчынных тлумачэнняў і славянскімі асаблівасцямі перакладу Свяшчэннага Пісання, а праваслаўны Усход, Расія — з заходняй, і гэта спрыяе сустрэчы розных канфесій, іх творчаму дыялогу. Герман Родаў ад Беларускай Біблейскай суполкі падкрэсліў, што работа над перакладам — важнейшая частка дабравесця.

На семінары было прачытана 33 даклады, праведзена восем практычных заняткаў на тэмы: «Сэнсавы пераклад. Граматычны аналіз»,

Палеміка

# НАПЕРАД — З ПЯСОЧНІЦЫ!

## альбо НЕШТА ПАДОБНАЕ МЫ ЎЖО ЧУЛІ...

Салідныя штодзённыя газеты не часта цешаць чытача артыкуламі-роздумамі пра светапогляд і ідэалы, дзяржаву і культуру, «духоўныя тупікі» і культурныя «пясочніцы»... Таму з вялікай цікавасцю прачытаў у «Советской Белоруссии» за 13 мая г.г. артыкул А.Савіцкага «Адкуль гэты тон, альбо Некаторыя роздумы пра смерць культуры». Не прыйшліся аўтару публікацыі Сяргея Дубаўца і Юрася Залоскі ў «ЛіМе» — «Смерць культуры» і «Перад чыстым лістом» адпаведна; выклікалі яны ў аўтара «адчуванне духоўнага тупіка»...

Але папраўлюся: нешта аўтар у тых публікацыях і адзначыў. Напрыклад, занепакоенасць станам беларускай культуры ў сучасных умовах, якую выказалі абодва лімаўскія аўтары. Аднак тое, што для іх стала толькі фіксацыяй пэўнага стану, паўзы, якую трэба пераадолець, А.Савіцкім успрынята як рэквіем беларускаму Адраджэнню ўвогуле. Дальбог — кожны, мабыць, чуе тое, што хоча пачуць.

У артыкуле ёсць некалькі цытат з разумных кніг разумных аўтараў. Відаць, разважаючы пра культуру, без гэтага абысціся нельга. Прывяду цытату і я. Фрыдрых Ратцэль, бацька геапалітыкі: «Наша разумовае і культурнае развіццё, усё тое, што мы называем прагрэсам цывілізацый, можна параўнаць хутчэй з ростам расліны, чым з свабодным узлётам птушкі. Мы заўжды будзем заставацца звязанымі з зямлёй; галінка можа расці толькі на ствале» /фундаментальная праца «Народазнаўства»/. Гэта да пытання пра абгрунтаванасць ці неабгрунтаванасць апоры беларускай культуры на сялянскім карані. І яшчэ адна цытата, яго ж: «Агульнае самавалоданне і агульныя інтарэсы ствараюць дзяржаву. Але найперш тут выяўляецца ўлада». А гэта — да пытання пра дужа ўразіўшае А.Савіцкага «адлучэнне» дзяржавы ад культуратварэння, прыхільнік якога Ю.Залоска. Чаму, дарэчы, яго на гэтай падставе назвалі бальшавіком — зразумець цяжка. Затое свае думкі пра ўзаемаадносіны дзяржавы і культуры А.Савіцкі парупіўся выказаць ясна: «Дзяржава — гэта частка культуры і яго /? — А.К./ структуры. Культура павінна быць, у сваю чаргу, сферай сур'ёзнай дзяржаўнай палітыкі».

Што ж, у свой час Мао-Цзэдун сцвярджаў, што вінтоўка нараджае ўладу. Падобна, сёння А.Савіцкі спрабуе запэўніць нас, што ўлада нараджае культуру. Ды нешта падобнае мы дзесь ужо чулі...

КУЛЬТУРА НІКОЛІ, НІКОМУ І НІЧОГА НЕ ПАВІННА. Затое мы — даўжнікі культуры. Сплаціць доўг культуры мы зможам, толькі ўключыўшыся ў культурны працэс, дабудоўваючы культуру. Дзяржава ж няздольная рабіць культуру, як бы яна ні называлася — таталітарная ці дэмакратычная, нацыянальная ці савецкая. Найбольшае, што можа зрабіць дзяржава — гэта праявіць культурную ініцыятыву. Але ажыццяўляць яе ўсё роўна будзе не дзяржава, а творца. Глыбінны сэнс суадносін культуры і дзяржавы робіцца зразумелым, калі спраецыраваць іх на ўзровень асобы. Мастак і ўлада — вось гэты ўзровень. Культура — гэта заўжды асоба, асоба таго, хто яе робіць, і таго, хто яе ўспрымае. Узаемаадносіны між гэтымі асобамі і ёсць нешта іншае, як культурны працэс.

У поўную процівагу культуры, заснаванай на асабовым пачатку, дзяржава вызначаецца нівеліроўкай асобы. Перад культурай мы не роўныя, перад дзяржавай — роўныя мусім быць. Перад яе законамі, грашыма, сістэмай кіравання і г.д. Культура ствараецца і спажываецца індывідуальна, — нават калі кінафільм рабілі пяцьсот чалавек і ў кіназале яго глядзяць таксама пяцьсот чалавек, гэта — узаемаадносіны не аднаго да аднаго, а пяцісот да пяціста, — дык дзяржава акумулюе ўладныя памкненні «мас» і ў сваёй дзейнасці аперыруе «масамі». Дзяржаўны закон, выпрацаваны для аднаго чалавека, уявіць немагчыма; зварот культуры да чалавека — заўжды глыбока індывідуальны.

Дык была ці не было ў нас культуры апошнія 70 год? Як не склаўся феномен «савецкі чалавек», гэтак жа хімерай аказалася і паняцце «савецкая культура». Так, у пэўных ідэалагічных інтарэсах выкарыстоўваліся культурныя формы; палітызацыя культуры паспрыяла стварэнню за кароткі час яе інфраструктуры. Але была істотна звужана прастора магчымых культурных ініцыятыў. Крах, аднак жа, пацярпела не культура, а дзяржаўная палітыка кіравання ёю. Важнейшыя культурныя з'явы пачалі ўзнікаць насуперак і па-за афіцыйнай, «дзяржаўнай» культурай.

Серп і молат савецкай улады аднолькава моцна ўдарылі і па эканоміцы, і па культуры. У выніку мы маем, з аднаго боку, распад дзяржаўнай эканомікі і культуры, з другога — ценявую эканоміку і нонканфармісцкую культуру. Здаецца, сёння ўжо ўсім зразумела, што дзяржава аказалася няздольнай да татальнага кіравання эканомікай, і не забяспечыла мінімуму правоў і свабод сваім грамадзянам. Эканоміка апынулася занадта сур'ёзнай справай, каб цалкам даверыць яе дзяржаве. Мяркую, што культура — справа не менш сур'ёзная, каб цалкам аддаць яе ў рукі дзяржавы. Калі дзяржаўны карабель пацёк і, барані Божа, можа пайсці на дно, — варта разгрузіць яго ад непасільных функцый. Ад гэтага выйграюць і дзяржава, і культура.

Можна толькі вітаць, калі дзяржава выступае ў якасці гаранта развіцця культуры і стварае для гэтага спрыяльныя ўмовы: праз падаткі, датацыі, стыпендыі і прэміі, развіццё адукацыі і друку, урэшце — праз дзяржаўны заказ. Але любыя прэтэнзіі дзяржавы на самую культурную творчасць, на культурны працэс — беспадстаўныя. Дзіўна, калі адначасова з раздзяржаўленнем эканомікі будзе працягвацца адзяржаўленне культуры...

«Так, мы, трыццацігадовыя, згубленае пакаленне...», — скрушна бядуе А.Савіцкі. Але ці варта ўласную разгубленасць пераносіць на стан усяго пакалення? «Разважаючы пра культуру, што можна супрацьпаставіць хоць бы таму звар'яцеламу бульдозеру тэлеканала «Астанкіна»? — працягвае бедаваць аўтар. Параю, як раўналетку: можна проста націснуць на кнопку выключальніка тэлевізара.

... Спадкаемцы прататалітарнай культуры кажуць: «Любіце дзяржаву — крыніцу культуры». Але за што мне яе любіць? За марную надзею, што яна калі-небудзь палюбіць тых грамадзян, якія ў еи жывуць? Можа, хопіць глядзець на дзяржаву, як на «добрага дзядзьку», які вызначыць і задаволіць усе нашы патрэбы — ад матэрыяльных да духоўных?

Аўтар цвердзіць пра «рэальнае культурнае будаўніцтва». Узгадваецца аскепак знаёмай трыяды: індустрыялізацыя, калектывізацыя, культурная рэвалюцыя... Гэтым пераможам? Аўтар як бы папярэджвае: «Не плюй у дзяржаўную студню, калі хочаш, каб табе дазволілі пагуляць у пясочніцы культуры». Дык што ж, назад, да дзяржавы? Ды не — наперад, да культуры!.

**Андрэй КІШТЫМАЎ**

*Гэты палемічны артыкул аўтар, навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АНБ, напісаў і прапанаваў газеце «Советская Белоруссия», якая ў маі г.г. змясціла публікацыю А.Савіцкага, прысвечаную дзвюм лімаўскім публікацыям — лістам С.Дубаўца «Смерць культуры» і нататкам Ю.Залоскі «Перад чыстым лістом» /«ЛіМ», 5.03.93 г./. Ды наша штодзённая рускамоўная газета, што больш чым праз два месяцы /!/ адгукнулася на публікацыі «ЛіМа», надрукаваць водгук сп.А.Кіштымава неяк не наважылася... Але, кіруючыся тым, што ў кожнай палеміцы важны не столькі суб'ект крытыкі — постаць члена Саюза мастакоў А.Савіцкага, што апошнім часам выступае як абаронца творчасці і вядомых мастацкіх поглядаў народнага мастака СССР М.А.Савіцкага, у гэтым плане нічым асаблівым не прывабная, — колькі важны сам аб'ект, прадмет гаворкі, развіццё /у форме ці то абвяржэння ці то падтрымкі/ выказаных кімсьці раней ідэй, — «ЛіМ» палічыў нататкі А.Кіштымава вартымі публікацыі.*

# СВЯТА МАЦІ БОСКАЙ БУДСЛАЎСКАЙ

Будслаў — старадаўняе мястэчка, якое славіцца прыгожым касцёлам Узнясення Марыі і цудатворным абразом Маці Боскай. Упершыню гэтыя мясціны ўзгаданы ў дакументах 1504 г., калі вялікі князь Літоўскі Аляксандр Ягелончык падараваў тутэйшую Маркаўска-матыцкую пушчу Віленскаму бернардынскаму кляштару. Манахі-бернардыны пабудавалі на гэтым месцы невялічкую каплічку і некалькі драўляных будаў як часовае жытло для тых, хто займаўся распрацоўкай лесу. Ад тых будаў і пайшла першая назва Будслава — Буда.

З бегам часу да бернардынскай каплічкі і будаў у лесе пацягнуліся навакольныя людзі, і тады ашмянскі земскі суддзя Карэйва пабудаваў у 1598 годзе ў Будзе касцёл, які ў 1600 годзе быў асвечаны ў гонар Візітацыі Прасвятой Дзевы Марыі.

У 1633 годзе, у часы, калі настаяцелем Віленскага бернардынскага кляштару быў Фларыян Калецкі, пачалося будаўніцтва першага мураванага касцёла, які праз дзесяць гадоў быў урачыста асвечаны.

Адразу пасля завяршэння будаўніцтва ў 1643 годзе распачаліся працы па стварэнні галоўнага алтара, якія скончыліся ў 1651 годзе. Галоўны алтар уражваў сугучным ладам скульптур, калон, дэкору нішаў і канелюраў, вытанчаным колеравым рашэннем. Алтар стварылі майстры высокай кваліфікацыі, якія ведалі найноўшыя дасягненні еўрапейцаў у справе стварэння драўлянага дэкору. Іх рукамі было выканана ўпрыгожанне канелюраў калон дробным «бягучым» арнаментам — флемаванымі шлячкамі, якія выраблялiся на спецыяльных прыстасаваннях, распрацаваных фламандцамі ў першай палове XVII стагоддзя. Невыпадкова алтару надавалася такая ўвага. Ён спецыяльна ствараўся для цудатворнага абраза Маці Боскай, які карыстаўся вялікай павагай сярод вернікаў і быў вядомы ва ўсім княстве. У 1650 годзе ў Вільні выйшла кніга езуіта Войцэха Віюна Каяловіча, у якой аўтар сярод іншых адзінаццаці цудатворных абразоў называе і абраз Маці Боскай у Будзе.

Гэты абраз намаляваў на тканіне памерам 70 х 75 см невядомы мастак у 1612—1649 гадах. Змешчаны ў цэнтры галоўнага алтара, у якім кампазіцыя, прапорцыі, дэкор і сэнсавы змест скульптур як бы падрыхтоўвалі да сустрэчы з цудам, абраз прыцягваў вернікаў не толькі з ваколіц, але і з усіх куткоў Беларусі і Літвы. Варта адзначыць, што зацікаўленасць і павагу да абраза мелі не толькі католікі, але і прадстаўнікі іншых хрысціянскіх канфесій. Кожны цуд, звязаны з Маці Боскай Будслаўскай, выклікаў новую, больш магутную хвалю пілігрымаў, а штогодні фэст захлынаў Будслаў вернікамі, якія прагнулі цудаў. Старыя муры не змяшчалі ўсіх жадаючых звярнуцца да Маці Боскай. Наспела неабходнасць будаўніцтва новага касцёла. У 1767 годзе быў закладзены кутны камень будучага касцёла, які намаганнямі настаяцеля Будслаўскага кляштара бернардынаў Канстанціна Пэнса і на ахвяраванні дабрадзеяў быў пабудаваны і асвечаны ў імя Узнясення Марыі ў 1783 годзе. Гэты касцёл з яскравымі рысамі віленскага барока ўзбагаціў Беларусь яшчэ адным помнікам сакральнай культуры, які захаваўся да нашых дзён. У новы касцёл папярэдняя /ад XVII стагоддзя/ святыня была ўведзена як капліца св.Барбары, а для кампазіцыйнага ўраўнаважання насупраць была пабудавана захрысція з бібліятэкай і архівам. Пад апекай Маці Боскай Будслаўскай пры касцёле плённа працавалі парафіяльная і музычная школы, гуртавалася моладзь, лучыліся вернікі.

Беглі гады, адыходзілі стагоддзі. Час і людзі настолькі пашкодзілі абраз, што наспела неабходнасць рэстаўрацыі, якую здзейсніў мастак-рэстаўратар Віктар Лукашэвіч. Сёння адноўлены абраз прамянее боскім святлом і адорвае вернікаў узмацнеўшай верай, надзеяй і радасцю.

Сёлета, 2 ліпеня, як і заўжды, збяруцца вернікі на фэст. Рыхтуецца даволі вялікая група пілігрымаў, якія пешшу пройдуць да Будслава. Састарэлыя змогуць паехаць аўтобусам, цягніком.

**Таццяна МАЛІНОЎСКАЯ**

*г.Гародня*

# ПАДЗЯЛЯЮЧЫ НАШ БОЛЬ

***...І зноў адчуваю зайздрасць, зразумелую кожнаму, хто хоць калі сутыкаўся з непаваротлівай, па руках і нагах скручанай савецкай выдавецкай практыкай. Зноў бачу прыклад, што выпуск кнігі, дарога яе ад аўтаравай ці ўкладальнікавай заяўкі ў выдавецтва да з'яўлення аддрукаванага, адзетага ў вокладку ёмішча думак, пачуццяў, звестак — працэс неабавязкова, сама меней, трох-чатырохгадавага шкандыбання этапамі планавання, узгаднення, рэдагавання, паліграфічнага выканання. Як у нас тое колькі часу было і застаецца цяпер.***

Здаецца, зусім нядаўна я з імі ў Мінску пазнаёміўся, з гэтымі сімпатычнымі немцамі з Брэмена. Спачатку з архівістам доктарам Андрэасам Ропке і евангелічным пастарам Луісам Фердынандам фон Цобельтыцам — група, з якой яны прыязджалі, цікавілася і гарой нашых цяперашніх праблем, і непазбыўным болем перанесенага нашым краем у вайну, у прыватнасці, трагедыяй мінскга гета. Трошкі пазней з псіхатэрапеўтам і журналісткай Інгрыд Шэфель, якая прымала ўдзел ва ўрачыста-жалобным адзначэнні мінчанамі ўгодкаў адной з самых крывавых акцый у мінскім гета — пагрому 2 сакавіка 1942 года.

Здаецца, толькі-толькі пашанцвала мне пакарыстацца іхняй гасціннасцю — папацiскаць ім рукі каля спічастых старадаўніх будынін горада, слыннага ва ўсім свеце, як радзіма вясёлых музыкантаў з неўміручай казкі Гауфа. Разам з жонкай, журналісткай Ганнай Красналёркай, аўтарам кніжкі «Пісьмы маёй памяці» — пра перажытае ёю дзяўчом за дротам мінскага гета, былі мы запрошаны ў Германію на дні, калі там праходзілі ўшанавальныя мерапрыемствы з нагоды 50-годдзя з пачатку дэпартацыі нямецкіх яўрэяў на знішчэнне ў канцлагерах акупаванай вермахтам Заходняй Еўропы, у тым ліку ў так званым зондэргета ў Мінску. Пачуўшы, што аўтарка гэтай прачытанай ім у нямецкім перакладзе беларускай кніжкі будзе ў Брэмене, сюды пад'ехаў, каб з ёю пазнаёміцца, Гайнц Розенберг, чалавек блізкага лёсу. Цяпер ён нью-йоркскі прадпрымальнік, але каранямі з Гамбурга, юнаком быў павезены адтуль на смерць у Мінск, зазнаў пякельнае, цудам ўратаваўся, і таксама напісаў пра сцерпленае ў юнацтве кніжку.

А не мінула з тых знаёмстваў года — і з Брэмена атрымалі мы аб'ёмісты зборнік, назву якога «Es geht tutsächlich nach Minsk» я пераклаў для сябе «Тое, што было ў Мінску» — кваліфікаваныя знаўцы мовы арыгінала пераклалі б мо інакш, лепш. І ў пераліку людзей, якімі вартнае, уражлівае выданне падрыхтавана, з прыемнасцю прачытаў поруч з іншымі імёны сваіх новых знаёмых. Розенберг напісаў прадмоўку. Цобельтыц распавядае пра ўбачанае і ўведанае ў часе і з нагоды залеташняй да нас у рэспубліку паездкі. Ропке выступае са словам пра Ганса Франка — аднаго з лічаных брэменцаў, каму выпала на долю прайсці праз галгофу мінскага зондэргета і застацца жывым. Шэфель — аўтарка апублікаваных у зборніку фатаграфій.

У падназве зборніка гаворыцца, што яго тэксты і матэрыялы — пра дэпартацыю брэменскіх яўрэяў у лагер смерці ў Мінск, праведзеную гітлераўцамі ў лістападзе 1941 года. Гэта ў ім сапраўды асноўнае. Друкуюцца імёны, даты нараджэння, ранейшыя брэменскія адрасы гаротнікаў, што ў адпаведныя праскрыпцыйныя спісы былі тут уключаны. Друкуюцца рэляцыі выканаўцаў — як злачынства ажыццяўлялася. Друкуюцца сведчанні тых, хто бачыў на ўласныя вочы, што з сябе ўяўляла мінскае зондэргета — спецыяльнае гета для яўрэяў, прыгнаных з Германіі і захопленых ёю краін. То пісьмы вязняў, адасланыя неяк з Мінска ў родны горад былым суседзям. То фрагменты з кніжак згаданых Г. Розенберга, Г. Краснапёркі, незгаданых К. Левенштэйна, П. Коля.

Але ў полі спагадлівай увагі ўкладальнікаў і аўтараў зборніка не толькі «яўрэйская дзялянка» крывавай трагедыі Беларусі ваеннай часіны. Пераклічка бомаў Хатыні, бязлітасная гаркота экспанаванага ў нашым музеі Айчыннай вайны, пачутае ад жанчын і мужчын з колішніх беларускіх «вогненных вёсак» — і гэта ў зборніку ёсць. І таксама наша сённяшняя чарнобыльская бяда, якой непрытворна трывожацца і Германія, і яшчэ дзяржавы наўкруг нас.

Пасляваеннымі дзесяцігоддзямі нямецкае грамадства выракальна судзіць фашысцкае мінулае сваёй айчыны, адчувае тыя дванаццаць гадоў яе гісторыі, як ганебную чорную пляму. Гэты зборнік, выдадзены ў Брэмене, — яшчэ адно таму пацвярджэнне.

**Уладзімір МЕХАЎ**



***Ёсць асобы, усё жыццё якіх прайшло на людзях і дэталёва,амаль да драбніц,распісана даследчыкамі, а яны ўсё роўна застаюцца загадкаю для сучаснікаў і нашчадкаў.***

***Да гэтай таямнічай кагорты належыць і мастак Язэп Драздовіч. Пасля яго засталіся карціны, замалёўкі, дзённікі, лісты: яшчэ жывуць людзі, якія памятаюць дзядзьку Язэпа. Але кожная сустрэча з ягонымі творамі — гэта сустрэча з таямніцай.***

***Гэта пацвердзіла і навукова-практычная канферэнцыя, што адбылася ў Віцебску 21 траўня. Яна насіла назву «Язэп Драздовіч. Асоба. Творчасць».***

***Пра канферэнцыю распавядаюць нашы спецыяльныя карэспандэнты.***

# «МЯНЕ ЯШЧЭ ПАШУКАЮЦЬ...»

**ЗАХОДНЮЮ БЕЛАРУСЬ** пазнаеш па роўненькіх шнурах палеткаў, дагледжаных падвор'ях і беленых садах. Далекавата толькі. Падумалася, што далей Глыбокага трэба ляцець на самалёце. А вось дзядзька Язэп анніякага транспарту, акрамя ўласных ног, не прызнаваў. Ён і з Мінска калісь ішоў пехатой — яшчэ там, у першай палове свайго жыцця, дзе былі Вільня і Наваградак, Беларускі музей Луцкевічаў і мастацкае асяроддзе. Аднак гарады не ўтрымалі Драздовіча. Другая палова яго жыцця прайшла на малой радзіме, Дзісеншчыне. Назва «Германавічы» ў яго дзённіку сустракаецца, бадай, часцей за астатнія. Сюды і прывяла нас нарэшце асфальтаваная стужка дарогі.

Пасля традыцыйных хлеба-солі і прывітання заходзім у Германавіцкі музей мастацтва і этнаграфіі імя Язэпа Драздовіча. Дырэктар і стваральніца музея Ада Райчонак з цеплынёй і хваляваннем апавядае пра апошнія дзесяцігоддзі яго вандроўнага жыцця. Наколькі ён рэалізаваў свой талент, да прафесійнага ці народнага мастацтва належаў — пра гэта распачнуцца спрэчкі заўтра, на навуковай частцы канферэнцыі, а пакуль мы аглядаем старажытны палац паноў Шырыных /яны ж пабудавалі і мясцовы касцёл/, спыняемся перад набіранкамі і паласавікамі, а найперш — перад дыванамі Драздовіча /іх у людзей нямала захавалася/, любуемся разной ляскай яго работы і адмысловым высокім кіем. Родны брат Міхася Машары Мялецій Антонавіч перадае для музея два лісты мастака і расказвае пра тое, як ствараўся разны партрэт пісьменніка.

Ёсць адна адметнасць у першага дня паездкі: гасцей — супрацоўнікаў Інстытута праблем культуры, Акадэміі навук, Беларускай акадэміі мастацтваў, мастацкіх і краязнаўчых музеяў, прадстаўнікоў прэсы — суправаджалі людзі, якія ведалі Язэпа Драздовіча, размаўлялі з ім, бачылі задуменным каля ракі ці вясёлым у гурце моладзі. Гэта зусім не рытуальны, не дзяжурны ўдзел: жвавыя бабулі і годныя дзяды ахвотна распавядаюць нам пра пана Язэпа, што насіў улетку высокі белы капялюш і кужэльны, як казала адна кабета, фрак. Ля магілы маці яго, Юзэфы Янаўны, дзе ляжыць каменная пліта, купленая сынам і ім жа выбітая, жанкі праспявалі памінальную песню і ўкленчылі. Пасля, у актавай зале школы, земляні зноў дзяліліся ўспамінамі ды нізка кланяліся А.Райчонак — за тое, што з сынам схадзіла ваколіцы, шукаючы дываны. «А то б знасілі і забыліся».

Так сапраўды магло стацца. Імя мастака доўгі час лічылася сімвалам нацыяналізму, а значыць было пад забаронай. Поўнае грамадскае забыццё — вось што па смерці пагражала і пры жыцці не вельмі ўдачліваму творцу. На пытанне Міхася Раманюка, хто ж ёй дапамог адкрыць для сябе і для людзей талент мастака, Ада Эльвеўна шчыра адказала: «Аляксей Марачкін».

Гэтае імя ў Германавічах таксама згадвалася часта. Для вяртання спадчыны Драздовіча А.Марачкін зрабіў як ніхто многа, адно што на гэты раз не змог прыехаць. Затое ён першы калісьці прайшоў сцежкамі дзядзькі Язэпа...

Зараз гэта Шаркоўшчына. Некалькі разоў мянялася адміністрацыйнае дзяленне, раён перакідвалі то да Мёраў, то да Глыбокага, то да Пастаў. «Шосты год, як мы самі па сабе, самастойныя», — жартуе намеснік старшыні райвыканкама Мікалай Макаранка.Ён строга сочыць за выкананнем праграмы і расслабіцца нам не дае.

Пра тутэйшае начальства мы тут рознага начуліся. Адзін старшыня калгаса, напрыклад, меў звычку страляць па анёлах ля алтара — калі склад быў у касцёле. Цяпер ён, кажуць, паразумнеў і хваліцца, што прачытаў усё Евангелле.

Ксёндз Ян Вайткевіч, ураджэнец гэтых мясцін, вывучаны ў Польшчы, адчуваецца, рады новым людзям. Тым болей, што сярод нас — намеснік старшыні Беларускай каталіцкай грамады Яўген Шунейка. Яны абмяняліся кароткімі прамовамі, а мы агледзелі адрэстаўраваны, густоўна аздоблены храм у стылі віленскага барока.

Пабывалі мы і ў калгасе «Гарадзец», дзе ў памяшканні былой малельні Зіберг-Плятараў размясцілася філія Германавіцкага музея. Тут вісяць жывапісныя палотны Драздовіча, а таксама сучасных нашых мастакоў-адраджэнцаў. Да графскага роду /яго замежныя нашчадкі не так даўно наведалі рэшткі памесця/ праявіў цікавасць сакратар Згуртавання беларускай шляхты Леанід Акаловіч, што разам з іншымі прыняў удзел у канферэнцыі.

... Едзем у бок Глыбокага, да магілы, а перад вачамі ўсё стаяць прыветныя твары местачкоўцаў, якія цераз гады здолелі захаваць у памяці драбніцы яго вобліку, характару, жыцця.

— Не ганаровы быў чалавек, просты...

— Як прыйдзе, то ў нас у хаце свята...

— Мы лічылі яго пералётнай птушкай...

— Хто не любіў беларускасці, прыніжаў яго...

— Каб ён толькі ведаў, што да яго будуць прыязджаць аж з Мінска і Віцебска!..

Ды нам не пашанцавала: ля рэчкі Мнюты ў нашага аўтобуса «стрэліла» кола. Так што на месца апошняга спачыну летуценніка і вандроўніка патрапіла толькі службовая «Волга» дырэктара Віцебскага абласнога цэнтра народнай творчасці Івана Лабацкага з прадстаўнікамі ад нашай групы.

З-за ўспамяненага здарэння мы спазніліся вечарам і на адкрыццё выставы Драздовіча ў Віцебску. Адно што пакупаліся «з гора» ў Мнюце /самыя смелыя/ ды адпачылі на прыдарожнай, маладой яшчэ траве...

«Мяне яшчэ пашукаюць», — казаў у хвіліны горычы і крыўды на долю Язэп Драздовіч. Цяжка давалася яму капейка на хлеб, несалодкім было беспрытульнае жыццё. Яго словы аказаліся прарочымі. І пашукалі, і знайшлі. І ўжо не аддадзім Вас, Язэп Нарцызавіч, забыццю і занядбанню...

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

**СЁННЯ НІХТО** не ставіць пад сумненне выключную ролю мастака ў гісторыі нашай культуры. Язэп Драздовіч — вястун Адраджэння. Слова, з якім ён звяртаўся да землякоў на пачатку стагоддзя, і сёння гучыць актуальна. Прынамсі, пра гэта гаварыў у сваім дакладзе «Я.Драздовіч і праблемы станаўлення беларускай мастацкай школы» доктар мастацтвазнаўства Віктар ШМАТАЎ. На думку навукоўца, уласна беларуская мастацкая школа пачынае фарміравацца ў XVI стагоддзі. Яе адметныя рысы ўвасобіліся ў гравюрах Францішка Скарыны, у стылістыцы «сармацкіх партрэтаў», у творах Максіма і Васіля Вашчанкаў, у фальклярызацыі /наданні выразных нацыянальных рысаў/ вобразаў беларускага іканапісу.

Натуральны шлях развіцця беларускай культуры быў спынены ў канцы XVIII стагоддзя, калі з палітычнай карты Еўропы знікае шматнацыянальная дзяржава Рэч Паспалітая і абшары Беларусі ператвараюцца ў правінцыі Расійскай імперыі. Калісьці М.Багдановіч пісаў пра тое, што ёсць мастацтва «сутнасна беларускае, але ў польскай абалонцы». Відаць, можна было б весці гаворку і пра «расійскую абалонку» творчасці пэўных беларускіх мастакоў XIX — пачатку XX стагоддзяў /Заранка, Хруцкі, Бялыніцкі-Біруля, Рушчыц/. Але В.Шматаў лічыць гэтых творцаў належнымі да Беларусі толькі ў пэўнай ступені. На ягоную думку, ва ўмовах Расійскай імперыі мастак, які атрымліваў прафесійную адукацыю, пачынаў працаваць найперш на Расію, а ў спецыфічных умовах Беларусі — на Расію альбо на Польшчу. У гэтым трагедыя нашай культуры. І з гэтага навуковец робіць высновы, што, пасля знікнення з канца XVIII стагоддзя беларускага мецэнацтва, на дзяржаўным узроўні і прыватным /гаворка ідзе пра магнатаў — Радзівілаў, Сапегаў, Пацаў і ўвогуле багатых людзей/, прафесійнае мастацтва, беларускае па духу, знікае. І адраджэнне павінна было распачацца, так бы мовіць, знізу, з народных глыбінь. Носьбітамі беларускага пачатку ў мастацтве павінны былі стаць творцы-самавукі, мастакі, не маючыя прафесійнай адукацыі. Людзі, псіхалагічна зарыентаваныя не на падтрымку з боку афіцыёзных структур і зрусіфікавана-паланізаваных прыватных фундатараў, а выключна на саміх сябе. Ды яшчэ, мабыць, на нейкі цуд...

Калі шукаць паралелі ў гісторыі, дык можна параўнаць носьбітаў беларускай ідэі ў Расійскай імперыі з хрысціянамі ў імперыі Рымскай. У Рыме стаялі велічныя храмы паганцаў-язычнікаў, а мастакі-хрысціяне аздаблялі сваімі наіўнымі «непрафесійнымі» роспісамі прытулак сваіх аднаверцаў — катакомбы. Але прыйшоў час і Хрысціянства выйшла з-пад зямлі на паверхню. Сучасны Рым — адзін з галоўных цэнтраў Хрысціянства, а ў цэнтры — Храм Св.Пятра, пабудаваны геніяльнымі дойлідамі і аздоблены геніяльнымі мастакамі. Прыблізна так можна было зразумець Віктара Шматава.

Слова «непрафесіяналізм» у дачыненні да твораў Язэпа Драздовіча падалося вельмі спрэчным мастацкаму крытыку, выкладчыку Беларускай акадэміі мастацтваў Яўгену ШУНЕЙКУ. Ён выступаў з дакладам «Стылістыка мадэрну і сімвалізму ў творчасці Я.Драздовіча». «Што, уласна кажучы, ёсць прафесіяналізм, — запытаў ён, — і што такое дылетантызм, калі гаворка ідзе аб творчасці?» Тыя парыжскія мастакі, што сёння ўваходзяць у кагорту класікаў, заснавальнікаў мастацтва авангарда, часцяком не мелі акадэмічнай адукацыі. Гэта прыгожа гучыць — «вучыўся жывапісу ў Парыжы», але на самай справе парыжскія вучэбныя студыі пачатку стагоддзя мала чым адрозніваліся ад аматарскіх «изостудий» пры нашых дамах культуры. Між тым, Язэп Драздовіч меў вельмі прыстойную прафесійную падрыхтоўку. Ён вучыўся ў Вільні, у школе вядомага ў свой час мастака Трутнева. Зрэшты, творцу трэба прафесійных ведаў і выяўленчых сродкаў роўна столькі, каб выказаць сваю ідэю. А ў гэтым сэнсе ў Драздовіча праблем не было. Для выяўлення сваіх думак і пачуццяў ягоных ведаў хапала. І ўвогуле, калі падзяляць мастакоў на «прафесійнікаў» і «дылетантаў», дык да апошніх давядзецца аднесці і Марка Шагала, і мастака літоўска/беларуска/-жамойцкага памежжа Міколу Чурлёна /Чурлёніса/, а, можа, і сусветна вядомага мастака Лявона Тарасэвіча. Бо іхняя творчасць ніяк не адпавядае акадэмічнаму вызначэнню прафесіяналізму.

Я.Шунейка мяркуе, што творчасць Я.Драздовіча трэба разглядаць у шырокім кантэксце еўрапейскага сімвалізму /мадэрну/, у адным шэрагу з такімі асобамі, як Альфонс Муха, Міхаіл Урубель, Мікола Чурлён, Станіслаў Выснянскі. Пры гэтым памятаць, што некаторыя аспекты творчасці беларускага генія не маюць аналагаў у еўрапейскім і сусветным мастацтве.

Аб трагічным лёсе спадчыны Язэпа Драздовіча апавядаў даследчык народнага мастацтва Міхась РАМАНЮК. Ён закцэнтаваў увагу на дзейнасці Я.Драздовіча як збіральніка помнікаў матэрыяльнай і духоўнай культуры. Бальшавіцкія хамы-«культуртрэгеры» глядзелі на сапраўднае мастацтва як на свайго класавага ворага. Гэта яны паруліліся, каб пры жыцці мастак не меў прытулку, каб пасля смерці яго «забылі». Згодна з іхняй тэрміналогіяй, мастак лічыўся «нацыяналістам». Таму землякам Драздовіча было небяспечна нават захоўваць дома ягоныя творы. М.Раманюку даводзілася бачыць малюнкі Драздовіча, дзе «для канспірацыі» адарваны подпіс мастака. Беларускі музей існаваў у Вільні пры ўсіх уладах, але быў ліквідаваны, калі Вільня стала сталіцай савецкай Жамойці /Летувы/. Частка ягоных фондаў была перададзена ў Мінск, а ў Мінску каштоўныя ўзоры матэрыяльнай культуры былі знішчаны, спалены як непатрэбшчына. Сярод знішчаных былі рэчы, якія падараваў музею Язэп Драздовіч.

Адным з лепшых сярод прачытаных на канферэнцыі быў даклад мастацтвазнаўцы, загадчыка аддзела выяўленчага і дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва Віцебскага абласнога цэнтра народнай творчасці Людмілы ВАКАР «Тыпалагічныя метамарфозы

Я.Драздовіча». Гэта доследэвалюцыі творчасці і светапогляду мастака, роздум пра тое, як асяроддзе фарміруе асобу і асоба — уласны свет.

У чымсьці пераклікаецца з названым доследам даклад навуковага супрацоўніка Дзяржаўнага мастацкага музея Беларусі Надзеі ВУСАВАЙ «Трансфармацыя зместу выяўленчых вобразаў адпаведна нацыянальнай ідэі ў беларускай графіцы пачатку XX стагоддзя». Пра малавядомыя старонкі творчасці мастака распавядала Л.НАЛІВАЙКА /«Газетна-часопісная графіка Я.Драздовіча»/, пра літаратурную /рукапісную/ спадчыну мастака, што захоўваецца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы — супрацоўнік гэтай установы А.ФУРС.

Драздовіч-настаўнік — гэта тэма даволі грунтоўна раскрыта краязнаўцам М.ГАЙБАЙ /»Драздовіч у Навагрудку».

Сёння тыя, каму не даспадобы дзяржаўнасць беларускай мовы, сцвярджаюць, што яна непрыдатная, у прыватнасці, для навукі; што няма і ніколі не было беларускіх тэрміналагічных слоўнікаў, што без мовы «старэйшага брата» беларуская навука загіне... Але ж вопыт 20-х гадоў /часы Інбелкульта/, напрацоўкі тагачасных тэрміналагічных камісій /іх, дарэчы, і сёння можна было б скарыстаць у справе дэрусіфікацыі/ — сведчаць пра адваротнае. Пытанні беларускай навуковай тэрміналогіі цікавілі і Язэпа Драздовіча, пра што распавёў М.ПАЎЛАЎ, сябра Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў з Віцебска /«Фельчар Я.Драздовіч і ягоны беларуска-расейскі слоўнік тэрміналогіі па анатоміі і фізіялогіі»/...

Гэта толькі частка дакладаў, што прагучалі на канферэнцыі. Не ўсе запрошаныя на канферэнцыю змаглі прыехаць у Віцебск. Таму шэраг дакладаў, такія, як «Асветніцкія традыцыі беларускай культуры ў дзейнасці і творчасці Я.Драздовіча», «Касмічная тэма ў выяўленчай творчасці Я.Драздовіча», «Нябесныя вандроўкі Я.Драздовіча — рэальнасць ці фантазія?», не былі зачытаны, але яны будуць надрукаваны разам з іншымі ў зборніку, дзе мяркуецца сабраць усе матэрыялы канферэнцыі.

Да канферэнцыі была прымеркавана выстава «Летуценні Язэпа Драздовіча». У экспазіцыю ўвайшлі творы са збораў Дзяржаўнага мастацкага музея, Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі, Музея старажытнабеларускай культуры Акадэміі навук, Дзяржаўнага гісторыка-культурнага запаведніка «Заслаўе». Па адным творы прадставілі на выставу Віцебскі абласны навукова-метадычны цэнтр народнай творчасці і калекцыянер А.Ізаітка. Арганізатары віцебскай імпрэзы парупіліся, каб своечасова выйшаў з друку каталог выставы /усе ўдзельнікі канферэнцыі атрымалі каталог разам з праграмай канферэнцыі/.

Аўтар уступнага артыкула да каталога — Людміла Вакар.

Фундатары выставы і канферэнцыі: Міністэрства культуры Беларусі, фірма «Дайнова», Маладзёжны цэнтр «ІЛВА». Арганізатары — Беларускі інстытут праблем культуры і Віцебскі абласны навукова-метадычны цэнтр народнай творчасці.

Улады Віцебска і вобласці, кіраўніцтва і супрацоўнікі рэспубліканскага Інстытута праблем культуры і абласнога навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці зрабілі ўсё магчымае /і нават немагчымае — калі браць да ўвагі, што на культуру грошай у дзяржбюджэце звычайна «няма»/, каб свята атрымалася. Каб супольная праца была плённай. Гэта знак, што ў культурным жыцці адбываецца дэцэнтралізацыя, што мясцовы, у дадзеным выпадку — віцебскі патрыятызм можа добра працаваць на агульнанацыянальнае Адраджэнне, на агульнанацыянальную ідэю. Добра, калі горад, які мае статус абласнога цэнтра, ладзіць імпрэзу на сталічным узроўні.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

Часопісы ў маі

# ... І ВАБІЦЬ ПА-РАНЕЙШАМУ ЖЫТА

• А паэзія і сёння — жыве ўсё ж. Не лозунгава-поклічная, што дзесяцігоддзямі запаўняла старонкі газет і часопісаў, нязменна адкрывала паэтычныя зборнікі як сталых, так і маладых аўтараў, а тая, што — з глыбінь жыцця, неабыякавая і да перажыванняў канкрэтнага чалавека і лучная з памкненнямі многіх, бо ў ёй — набалелае, самае запаветнае, без чаго чалавек перастае быць чалавекам. І тое вечнае, якое хоць і падмянялася катэгорыямі класавасці, партыйнасці, але не страчвала свайго першаснага значэння.

Гэтае самае вечнае ў П.Панчанкі набывае падсветку агульначалавечага. Лірычны ж герой, апынуўшыся на ростанях часу, азіраючыся на пройдзены шлях, разнявольваецца ад таго, што скоўвала яго гадамі. Разнявольваецца і выпростваецца душой. І спяшаецца адчуць сваю повязь з каранямі, вытокамі:

**Калі за лета не ўбачу жыта —**
**Зраблюся хворым.**
**А за плячыма ўсё перажытае**
**Стаіць з дакорам.**
...............
**А што засела у сэрцы кволым**
**З часоў дзяцінства?**
**А тая песня — і матчын голас**
**У полі чыстым.**

Разам з тым герой гэты — у каторы ўжо раз! — з зайздросным пастаянствам, перш чым заклікаць да падобнага ўчынку іншых, самаачышчаецца, пазбаўляецца ўсяго другаснага і наноснага, што не абмінула і яго ў пару, калі людзі былі ўсяго толькі «вінцікамі». Здзіўляюць давер і адкрытасць, на якія здатны толькі той, у каго сумленне светлае і душа чыстая:

**Мой век на схіле,**
**Хутка я памру...**
**Сябры мае,**
**Журыцца не патрэбна.**
**Скажы: пісаў лухту?**
**Пісаў падчас муру,**
**Калі наглядчыкі**
**Таўклі мяне пад рэбры.**

Ачышчэнне дзеля маральнага ўдасканалення. Менавіта дзеля ўдасканалення, а не самазаспакаення. А што лірычны герой паэта і цяпер не можа заставацца старонні́м назіральнікам, сведчаць іншыя вершы П.Панчанкі з гэтай палымянскай падборкі. Асабліва апошні, якім яна завяршаецца, — «Пара ізноў на бой!». Паэт заклікае на рашучае змаганне, барацьбу «супроць нягоднікаў, І хабарнікаў подлых, Нахабных раскрадальнікаў Багацця і красы». Што ж і такі заклік сёння да месца, бо, як ніколі раней, развялося вельмі шмат рознай брыдоты. Сярод іх і тыя, пра каго красамоўна сказана вось у гэтым панчанкаўскім вершы: «З пустога пераліваюць у парожняе, А пасля з парожняга ў пустое...»

Як бы ні віталі мы розныя паэтычныя эксперыменты, а ўсё ж так званая традыцыйная паэзія прыносіць ці не найбольшую асалоду. Асабліва, калі напісанае пазначана адзнакай таленту і той аўтарскай відушчасцю, калі за, здавалася б, звычайнасцю радка адкрываецца першароднa-светлае, нерушавае бачанне рэчаіснасці. А ці не так напісаны верш Н.Гілевіча «Над Лескавіцкім возерам»? На адным дыханні, на адным усплёску пачуцця:

**Над Лескавіцкім возерам**
**Спакой і цішыня.**
**На вецці вербалозавым**
**Павісла стома дня.**
**Вячэрняя сутонніца**
**Нячутна мроі тчэ.**
**А вусны не натомяцца —**
**Яшчэ, яшчэ, яшчэ!**

Сапраўды, вечнае застаецца вечным. І пра гэта знойдзеш развагі ў палымянскай нізцы Н.Гілевіча: «Якія грамы адгрымелі! Якія дажджы адгулі!.. А зоры зіхцяць, як зіхцелі. А хмары плывуць, як плылі». /«ххх Не рві сабе сэрца, паэце!..»/.

У гэтае пастаянства вяртаецца і Ю.Свірка. Таксама да вытокаў, таксама да каранёў. І, як раней, застаецца чуйным, пранікліваым лірыкам, у чым, добра пераконвае, напрыклад, верш «Чэрвеньскі лівень»: «Шуміць залева, як на згубу. Ці ёсць яна на небе, сінь? Як вадасцёкавыя трубы, Стваλы бяроз, ствалы асін».» Па-свойму /«Трызненне Белай Русі»/ гаворыць паэт пра тое, што не можа не трывожыць сёння кожнага свядомага беларуса: нацыянальны нігілізм, знікненне з паўсядзённага ўжытку роднай мовы.

Паэзія майскага нумара «Полымя» — гэта і старонкі неапублікаванай творчай спадчыны Я.Янішчыц. Не толькі паэтычнай / /змешчаны таксама два невялікія апавяданні/, але менавіта незавершаная паэма «Галалёд» і вершы даюць падставы гаварыць пра Я.Янішчыц як пра мастака слова вялікага таленту. Пра гэта ва ўступным артыкуле «Стол мой пісьмовы ўзрос да пагорка» хораша гаворыць В.Коўтун, праводзячы паралель з творчасцю незабыўнай Цёткі: «... абедзвюх аўтарак, паміж жыццём і творчасцю якіх цэлае стагоддзе, лучыць у нашай літаратуры і тое, што яны, абедзве, назаўсёды застануцца ў гістарычна-культурнай памяці народа, і тое, на жаль, што абедзве так і не даспявалі сваю песню. А які голас быў чуцен, які тон, якая вышыня! Для мяне гэтыя два святыя імёны на адвечных старонках нашай літаратурнай агульнанароднай Біблii будуць стаяць заўсёды побач».

А яшчэ ў «Полымі» — аповесць М.Воранава, заканчэнне рамана І.Капыловіча і ўспамінаў П.Мядзёлкі. Апошнія друкаваліся з другога нумара. Гэта па сутнасці, кніга, і было б добра, каб яна хутчэй пабачыла свет. Падагульняючы ж першапачатковае ўражанне, можна засведчыць адно: дзякуючы гэтым мемуарам па-новаму пачынаеш глядзець на шмат якія падзеі ў грамадскім, палітычным і культурным жыцці Беларусі і адначасова ў новым святле паўстаюць шмат якія дзеячы. Хоць, безумоўна, нельга не прымаць пад увагу і пэўны суб'ектывізм аўтаркі.

Васіль Гігевіч і Алег Чарноў публікацыяй «Куды ідзём?» працягваюць цыкл дакументальных даследаванняў пра чарнобыльскую катастрофу, пра перспектывы развіцця ядзернай энергетыкі на Беларусі. Былі іх выступленні ў «Маладосці», былі і ў «Полымі». Трывогі, аднак, не меншае, а, можа, і большае. «Мірны» атам аказаўся гэткім злым джынам, што па-ранейшаму нельга пэўна адказаць, што нас чакае заўтра. Адказваць жа — неабходна. Хоць бы таму, што знаходзіцца ўжо нямала прыхільнікаў пабудовы ў рэспубліцы магутнай атамнай электрастанцыі, што за будаўніцтва выказваюцца ўжо і тыя, хто яшчэ нядаўна быў супраць. Праблемы, праблемы... На іх і спрабуюць даць адказ аўтары.

Пры цяперашнім дэфіцыце на рэцэнзіі кожную публікацыю сустракаеш з асаблівай увагай. І радуешся, калі яна напісана на высокім узроўні, як гэта зрабіў А.Федарэнка, разглядаючы зборнік апавяданняў У. Клімовіча «Выратаванне безданню», што выйшаў у «Бібліятэцы часопіса «Маладосць».

Апошнім часам спрабуе паправіць становішча з рэцэнзаваннем часопіс «Нёман». Прынамсі, пачалі ў ім з'яўляцца падборкі «Круг чытання». Ён звяртае ўвагу чытачоў на лепшыя кніжныя навінкі. Адбор твораў строгі. А наконт аператыўнасці? С.Дубавец разглядае зборнік вершаў Л.Геніюш, што выйшаў у Лондане ў 1992 годзе. Юстын Рокаш дзеліцца думкамі пра «Дзённікі» Я.Драздовіча /публікаваліся ў «Маладосці» ў 1991 і першых двух нумарах за 1992 год/, аповесць В.Адамчыка «Падарожжа на Буцафале» /«Полымя», 1991, N 12/, пра кнігу выбранага А.Кабаковіч «Пасеянае ўзыйдзе» /таксама 1991 года/. Ці не запозненая гаворка, хоць і прынцыповая?

Наўрад ці пакіне каго абыякавым публікацыя ў «Нёмане» раздзелаў з кнігі Х.Ленхарда «Жыццёвая прастора на Усходзе». Немцы на Беларусі. 1941—44". Праўда, меркаванні наконт патрэбнасці яе раздзеляцца. Але, відаць, і гэта меў на ўвазе А.Кудравец, калі ўступны артыкул завяршыў так: «Як рэстаўратар, здымаючы пласт за пластам паверхневую мазню выпадковых рамеснікаў, цярпліва дабіраецца да створанага геніем шэдэўра, так і час здымае штучныя пакрыцці і забароны, каб вызваліць твар сапраўднай праўды, якой бы балючай і жорсткай яна ні была».

Жанр свайго новага твора «Расплата», пачатак якога прапануе «Маладосць», У.Глушакоў вызначыў як аповесць-споведзь. У ім — гаворка аўтара аб набалелым, аб тым, што трывожыць і непакоіць яго, калі кожным разам наведваецца ў родныя мясціны, у Давыд-Гарадок. Хто знаёмы з папярэдняй аповесцю У.Глушакова «Насенне», безумоўна, пазнае некаторых персанажаў. Празаік імкнецца спазнаць характар чалавека, прапусціць праз лёсы канкрэтных людзей наш час, складаны, няпэўны. Аповесць прываблівае ўнутранай публіцыстычнай скіраванасцю, сюжэтнай скампанаванасцю.

Р.Платонаў і М.Сташкевіч /«Так вырашаўся лёс Беларусі»/ паказваюць, як розныя палітычныя партыі вялі барацьбу за ўтварэнне беларускай дзяржавы ці як ставіліся яны да гэтага складанага пытання.

Чарговы нумар «Маладосці» — гэта вершы М.Федзюковіча, Ю.Свіркі, балада салдацкага болю П.Прыходзькі «Раздвоеная душа», апавяданні А.Крэйдзіча, В.Ткачова, змястоўны публіцыстычны раздзел.

А пра майскі нумар «Беларусі» памаўчым. Калі пішуцца гэтыя радкі, ён яшчэ не выйшаў з друку. Складанае становішча і з іншымі выданнямі, у якіх ёсць каляровыя ілюстрацыі. Аказваецца, у друкарні «Беларускі Дом друку» сапсавалася нейкая імпартная машына. Кажаце, ёсць у нашай дзяржаве фабрыка каляровага друку? І нават не адна? Дык жа — як у тым анекдоце... Не з нашым, дачушка, шчасцем!

**М.АНДРЭЕНКА**

Кнігі

# ЯК ПРОМЕНЬ СОНЦА...

Па-рознаму знаходзіць талент шлях да прызнання. І што самае цікавае, чым больш значны ён у сваёй сутнасці, тым дарога гэтая цяжэйшая і больш пакутная, пакрытая шматлікімі калдобінамі. Пацвярджэнне таму і лёс выдатнейшага польскага паэта-рамантыка, а да ўсяго — філосафа, мастака і скульптара Цыпрыяна Каміля Норвіда. Сучаснікамі ён не быў належна ацэнены, ды і цяпер далёка яшчэ не ўсе разумеюць, якая гэта глыба ў сусветнай паэзіі. Не інакш і праўда, што шлях да зорак пралягае праз церні.

Прыемна, што беларусы значнасць створанага Ц. Норвідам зразумелі аднымі з першых. І не ў апошнюю чаргу дзякуючы Алегу Мінкіну. Сам таленавіты паэт, аўтар дзвюх арыгінальных кніг, ён знайшоў у асобе Ц. Норвіда таго, хто сваімі творамі здатны даць адказ на многія складаныя праблемы сучаснасці. І ўзяўся за пераклад. А пасля знайшоў падтрымку і разуменне ў выдавецтве «Мастацкая літаратура»: Ц. Норвід загаварыў па-беларуску.

Прэзентацыя кнігі Ц. Норвіда «Ідзі са мной» адбылася нядаўна ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Як зазначыў, адкрываючы сустрэчу, дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Серафім Андраюк, ужо сам выхад таленавітай кнігі — з'ява незвычайная, а калі яна перакладная, дык гэта яшчэ і сведчанне паспяховых творчых сувязяў і кантактаў. А яны ў нас з Польшчай — даўнія і трывалыя. І гэта невыпадкова: у польскага і беларускага народаў агульнасць гістарычных лёсаў, агульнасць, так сказаць, і вытокаў многіх і многіх кніг. Пераклад жа твораў Ц. Норвіда сведчыць адначасова і аб тым, што беларуская мова дазваляе перастварaць самыя складаныя літаратурныя з'явы, у тым ліку і літаратуру элітарную.

Адзначаючы важнасць выхаду кнігі Ц. Норвіда, міністр інфармацыі Анатоль Бутэвіч адначасова запыніў увагу і на тым, як у рэспубліцы, нягледзячы на цяжкасці, удаецца выпускаць кнігі, неабходныя чытачу.

Пра тое, што ўяўляе сабой творчасць Ц. Норвіда, як цяжка і адказна яго перакладаць і наколькі гэта ўдалося А. Мінкіну, падрабязна расказаў рэдактар кнігі Васіль Сёмуха. Сваімі думкамі пра творы польскага паэта падзяліўся мастак Сяргей Чарановіч, які афармляў зборнік /нагадаем, што ён выйшаў у так званым палепшаным мастацкім афармленні/. Крытык Ігар Бабкоў вызначыў кнігу «Ідзі са мной» як дыялог двух паэтаў — аўтара і перакладчыка.

І, канечне ж, у прэзентацыі браў удзел А. Мінкін.

**Н. К.**

Газета ў газеце



# СЛУЖЫМ АЙЧЫНЕ

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ БЕЛАРУСКАГА ЗГУРТАВАННЯ ВАЙСКОЎЦАЎ

## ХРОНІКА БЗВ

**8 траўня, згодна з усталяванай традыцыяй, БЗВ ушанавала памяць ахвяр Другой сусветнай вайны. Дэлегацыяй БЗВ разам з прадстаўнікамі БНФ і БСДГ былі ўскладзены кветкі на магілы жаўнераў на Вайсковых могілках у Мінску, а таксама, разам з прадстаўнікамі яўрэйскіх арганізацый — да помніка ахвярам мінскага гета. На месцах ускладання кветак адбыліся жалобныя мітынгі.**

**Міністр абароны РБ аддаў загад распачаць службовае расследаванне па факце ўдзелу афіцэраў у мерапрыемствах па ўшанаванні памяці ахвяр фашызму.**

**Загадам міністра абароны N 0499 ад 7 траўня звольнены ў запас старшыня Каардынацыйнай рады БЗВ падпалкоўнік М. Статкевіч. Фармулёўка звальнення — «за дыскрэдытацыю высокага звання афіцэра». Цікавая дэталь: з міністэрства было загадана давесці загад да ведама Статкевіча 8 траўня, што і было выканана вечарам таго ж дня. Падарунак да свята?**

**12 траўня на пасяджэнні Выканаўчай рады БЗВ разгледжаны пытанні барацьбы супраць злоўжыванняў у войску. Прынята заява рады па факце незаконнага звальнення спадара М.Статкевіча.**

**У сярэдзіне траўня Міністэрства юстыцыі РБ завяршыла чарговую праверку законнасці дзейнасці БЗВ. Гэтая дзейнасць прызнана адпавядаючай статуту, згодна з якім Згуртаванне з'яўляецца «непалітычным грамадска-патрыятычным рухам».**

**10 чэрвеня на плошчы Незалежнасці адбылася сустрэча народных дэпутатаў — сяброў БЗВ і апазіцыі — з выбаршчыкамі. Каля трох тысяч чалавек, што прыйшлі на сустрэчу, асудзілі праследаванні беларускіх патрыётаў у войску і спробы ўцягнуць Беларусь у ваенны саюз з ваюючымі краінамі Сярэдняй Азіі і Закаўказзя. На сустрэчы выступілі народныя дэпутаты В.Новікаў, Л.Дзейка, В.Какоўка, С.Антончык, З.Пазняк. Вядомы беларускі бард Андрэй Мельнікаў з Оршы выканаў некалькі сваіх песень.**

**16 чэрвеня Выканаўчая рада БЗВ зацвердзіла парадак дня пасяджэння чарговай Каардынацыйнай рады Згуртавання, якая пачне сваю працу 26 чэрвеня ў II гадзін у Мінску. На пасяджэнне запрошаны прадстаўнікі рэгіянальных суполак БЗВ і арганізацыйных груп па іх стварэнні. Тэлефон для даведак: 45-78-52.**

## ПОМНІК «АФГАНЦАМ»: ПАЛІТЫЧНЫ АСПЕКТ

Зноў і зноў у друку з'яўляюцца палемічныя нататкі наконт помніка ахвярам Афганістана ў Мінску. Добра, што адпаведная камісія Мінгарсавета цікавіцца думкай чытачоў гарадскіх газет. Шмат ужо пісалася высокакваліфікаванымі спецыялістамі аб немэтазгоднасці будаўніцтва помніка менавіта ў Траецкім прадмесці. Хачу закрануць адзін аспект гэтай праблемы — палітычны.

Траецкае прадмесце — гэта не проста гісторыка-архітэктурны помнік нашага старажытнага горада. Адбудаваны і рэстаўраваны, гэты маленькі архітэктурны ансамбль стаў як бы сімвалам беларускага Адраджэння, калі на зруйнаваным месцы аднаўляецца гістарычная памяць. Нездарма яшчэ некалькі гадоў назад менавіта тут падбухтораныя камсамолам «афганцы» збівалі моладзь толькі за тое, што яна размаўляла і спявала песні на беларускай мове. Побач з Траецкім прадмесцем вандаламі быў зняважаны помнік славутаму сыну беларускага народа — Максіму Багдановічу. Мы ведаем, што ворагі Беларусі не грэбуюць нічым. У іх няма нічога святога: ні Радзімы, ні матчынай мовы, ні гісторыі. Нават несціханы боль маці па загінуўшым сыне яны гатовыя выкарыстаць дзеля сваіх брудных мэт, падштурхоўваючы няшчасных жанчын дамагацца вострава на Свіслачы. Шукаць тых, каму ненавісна ўсё беларускае, няцяжка. Гэта тыя, хто выдае газетку «Мы и время», хто пад чорна-жоўта-белымі і чырвонымі сцягамі арганізуе чарнасоценныя вылазкі ў сталіцы суверэннай дзяржавы, хто з лютай нянавісцю ў вачах дамагаецца ад Вярхоўнага Савета «двуязычия».

Беларусы цярплівы, добразычлівы народ, ніколі нікому не рабілі шкоды, і ў гэтым выпадку праявяць сваю памяркоўнасць. Але не давялося б дарэмна выкідаць грошы, бо, магчыма, у хуткім часе прыйдзецца помнік пераносіць у іншае месца, каб стаяў ён не насупраць карчмы, а там, дзе і павінен стаяць, каб нам не было сорамна перад нашымі дзецьмі.

**Алесь БУБНОЎСКІ**

## «УЗРОВЕНЬ ЗЛАЧЫННАСЦІ Ў ВОЙСКУ ПЛАНУЕЦЦА Ў ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ І МІНІСТЭРСТВЕ АБАРОНЫ»

«Не, нічога вы не дасягнулі, зрабіўшы сваё войска монаэтнічным. «Дзедаўшчына» не прапала, уцекачы не перавяліся, а шмат дзе з'явіліся злачынствы і правапарушэнні такія, пра якія раней і не чулі», — гавораць зараз шматлікія генералы ад палітыкі і псіхолагі ад інфантэрыі і даюць выразна зразумець, што эксперымент праваліўся і даўно пара было б назад, да «неперыможнай і легендарнай».

Што ж, па некаторых пазіцыях яны маюць рацыю. Ёсць яшчэ і дзедаўшчына, і ўцёкі, і п'янства, і мацяршчына, і крадзеж, і шмат чаго ёсць. Але давайце глянем, адкуль гэта бярэцца. Раней модна было ківаць на рэчаіснасць, падлічваць працэнт бязбацькавічаў, спасылацца на шкодныя традыцыі ПТВ і перажыткі мінулага. Можна было б і зараз лезці ў гэтыя глыбіні грамадска-даследчых джунгляў, калі б на самым іх ускрайку не стаяла велізарная шыльда з надпісам, вынесеным у загаловак. Давайце глянем, ці ёсць жа падставы для такога рэзкага сцвярджэння. Спытаем самі сябе: «У чым прычына злачыннасці ў войску?» І паспрабуем адказаць.

Войска павінна быць і можа быць элітнай часткай грамадства і ў інтэлектуальным, і ў маральным плане. Што датычыць афіцэрскага корпуса, то сітуацыя тут прымальная. Усе афіцэры маюць вышэйшую адукацыю, а шмат хто і дзве. Абсалютная большасць жаўнераў трапляе ў войска яшчэ мала сапсаванымі асобамі, якія лёгка паддаюцца выхаванню, але наконт інтэлектуальнага ўзроўню гаварыць цяжка. Зараз у войска трапляюць толькі тыя, хто не мае права на адтэрміноўку, г.зн хто не здолеў нікуды паступіць, ці скончыў не болей ПТВ, адным словам, былыя школьныя двоечнікі і троечнікі, ды і не самых узорных паводзін. Таму:

выснова першая. Калі мы хочам падняць інтэлектуальны ўзровень войска, мы павінны ліквідаваць усе прывілеі ці большасць з іх. У Беларускім войску павінны служыць усе грамадзяне Беларусі мужчынскага полу. Выключэнні могуць быць толькі па цяжкіх сямейных абставінах. Для тых, хто не служыў у войску, павінны быць зачынены дзверы ва ўсе дзяржаўныя ўстановы, на любую дзяржаўную службу, у дзяржаўныя навучальныя ўстановы. Ні адзін з тых, хто не служыў у войску, не павінен быць выбраны дэпутатам нават сельскага Савета, не гаворачы ўжо пра Вярхоўны. Вярхоўны Савет павінен перагледзець усе свае неабдуманыя законы ў вышэйпазначаным кірунку. Бо пакуль што іменна Вярхоўны Савет сваімі палёгкамі спланаваў нізкі інтэлектуальны ўзровень жаўнерскага і сяржанцкага складу.

Разам з гэтым Вярхоўны Савет падкінуў войску і яшчэ адну праблему.

Ні для кога не сакрэт, што на працягу ўсіх сямідзесяці гадоў савецкай улады на Беларусі, ды і па ўсім былым Саюзе, мэтанакіравана вынішчаліся духоўныя каштоўнасці народа: нацыянальныя, хрысціянскія і проста агульначалавечыя. Гэта рабілася з адной мэтай, а менавіта з мэтай вызвалення ментальнай прасторы для «каштоўнасцей» камуністычных. Але штучнасць камуністычных каштоўнасцей перашкодзіла ім заняць гэтую прастору. Была створана нейкая плеўка, якая, лопнуўшы, утварыла поўны духоўны вакуум нашага грамадства. Вакуум у грамадстве пачаў хутка запаўняцца. З аднаго боку, гэта нацыянальна-патрыятычныя, хрысціянскія, агульначалавечыя, дабрачынныя ідэалогіі. З другога — гэта ідэалогіі сексу, гвалту, злачыннага бізнесу. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, прыняўшы закон аб дэпалітызацыі і дэідэалагізацыі Узброеных Сіл, зрабіў спробу абярагчы войска ад усіх гэтых ідэалогій разам. Але ўсё атрымалася інакш, па прычыне рознай ментальнай актыўнасці гэтых ідэалогій.

Калі для выхавання хрысціянскага светапогляду ў грамадстве мала стагоддзяў і тысячагоддзяў руплівай працы, калі чалавек з прычыны сваёй грэшнай сутнасці за ўсё жыццё не даходзіць да адпаведнасці хрысціянскім нормам, калі на нашай Беларусі трэба дзесяцігоддзі працы, каб павярнуць народ да ўласнай мовы і ўласнай гісторыі, то ідэалогія лёгкага ўзбагачэння, суперменства, сексу захоплівае свае пазіцыі хутка і рашуча, без асаблівых высілкаў. Таму:

выснова другая. Калі мы хочам не дапусціць у войска ідэалогій, якія штурхаюць на злачыннасць, дзедаўшчыну, уцёкі, мы павінны ўсімі магчымымі сродкамі весці насаджэнне ідэалогій станоўчых, і перш за ўсё — нацыянальна-патрыятычнай. Вярхоўны Савет замест праграмы дэідэалагізацыі і дэпалітызацыі войска павінен выпрацаваць праграму нацыянальна-патрыятычнага выхавання, заснаваную на беларускіх нацыянальных і гістарычных каштоўнасцях. У войску павінна панаваць ідэалогія нацыянальнага Адраджэння. Толькі тады мы здолеем пазбавіцца агульнай бездухоўнасці, а значыць — пазбавіцца і ўсіх наступстваў яе.

Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь распрацавала «Канцэпцыю выхаваўчай працы ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь». Канцэпцыя гэтая, зноў жа, грунтуецца на прынцыпах дэпалітызацыі і дэідэалагізацыі, а таксама на непарыўным адзінстве патрыятычнага і інтэрнацыянальнага выхавання. Але пра дэідэалагізацыю і дэпалітызацыю мы ўжо гаварылі. Што ж датычыць інтэрнацыяналізму, то нашае войска стабільна рухаецца ў іншым напрамку. У войску не засталося ні аднаго іншаземца. Усе вайскоўцы — грамадзяне Беларусі. Практычна ўсе жаўнеры нарадзіліся ці выраслі ў Беларусі, і мы можам гаварыць пра іх беларускасць незалежна ад нацыянальнасці. Колькасць афіцэраў-беларусаў у войску няўхільна расце. Гадоў праз пяць яны складуць абсалютную большасць. Таму:

выснова трэцяя. Выхаваўчая праца ў Беларускім войску павінна грунтавацца на ідэалогіі нацыянал-патрыятызму і толькі на ёй.

Такім чынам:

выснова чацвёртая і апошняя. Прыняўшы непрадуманыя законы аб палёгках для грамадзян Беларусі па службе ў войску, прыняўшы Закон аб дэідэалагізацыі і дэпалітызацыі і не прыняўшы закона аб праграме нацыянальнага Адраджэння ў войску, Вярхоўны Савет, а з ім і Міністэрства абароны спланавалі і стварылі ўсе ўмовы для росту ў войску бездухоўнасці, пранікнення ў яго шкодных ідэалогій, што з'яўляецца адзінай перадумовай злачыннасці і іншых негатыўных з'яў ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ**




*Момант сустрэчы сябровў БЗВ з народнымі дэпутатамі Беларусі на плошчы Незалежнасці*

# СУСТРЭНЕ КУДОВА-ЗДРУЙ

Польскае мястэчка з такой складанай назвай ужо 32-гі раз прымае ўдзельнікаў і гасцей традыцыйнага Манюшкаўскага фестывалю. Як вядома нашым чытачам, па запрашэнні Марыі Фолтын — знанай спявачкі, дырэктара фестывалю, старшыні Таварыства сяброў Станіслава Манюшкі — у Кудову-Здруй сёлета ўпершыню запрошаны беларускія артысты. Старшыня створанага нядаўна ў Мінску Музычнага фонду імя Манюшкі мастацкі кіраўнік «Беларускай Капэлы» В. Скорабагатаў выступіць на фестывалі з канцэртмайстрам Г. Каржанеўскай ды ў суправаджэнні ансамбля салістаў «Класік-Авангард» /мастацкі кіраўнік У. Байдаў/, канцэртам якога 30 чэрвеня адкрыецца свята ў Кудова-Здруі. Удзельнічаюць у фестывалі і яшчэ двое беларускіх вакалістаў — Н. Казлова ды М. Жылюк.

Беларуска-польскія музычныя стасункі набываюць плённае развіццё і сапраўды двухбаковую аснову: ёсць папярэдняя дамоўленасць наконт удзелу маладых польскіх спевакоў у конкурсе выканаўцаў імя Л. Александроўскай.

А ў Манюшкі на радзіме тым часам шчыруюць захавальнікі адзінага ў свеце ягонага музея — вядомы энтузіяст Васіль Несцяровіч ды спадарыня Ірына — ягоная дачка і пераемніца, з нядаўняга часу дырэктар Музея С. Манюшкі ў пасёлку Азёрны, ці па-цяперашняму — загадчыца Убельскай філіі Аб'яднання літаратурных музеяў. Ірына займаецца даследчыцкай працай, перакладае біяграфічную літаратуру пра Манюшку /даведнікаў пра яго няма ні на беларускай, ні на рускай!/, прымае экскурсіі, рыхтуецца да стажыроўкі ў Варшаве і... Вырошчвае кветкі для інтэр'ера будучага дома, які мае быць адноўлены на месцы спаленай фашыстамі сядзібы Убель. Адведзены 2 гектары зямлі для правядзення рэканструкцыі дома, надворных пабудоў, кветніка; ужо раскапаны падмурак жытла, даволі ўражлівых памераў. Мо дачакаемся і фестывалю на Манюшкавай радзіме?

**С. Б.**

# КАМПАЗІТАРЫ! ШУКАЙЦЕ ФРАНКІ

У французскім горадзе Безансоне будзе праходзіць VI Міжнародны конкурс кампазітараў імя А. Ахана /у рамках 46-га Міжнароднага музычнага фестывалю/. Гэта інфармацыя можа зацікавіць і нашых творцаў, бо ўдзельнічаць у ім могуць канкурсанты з усіх краін ва ўзросце да 35 гадоў /на 1.09.93 г./. Разглядацца будуць творы, напісаныя сёлета, для аркестра з салістамі /гучанне ад 10 да 15 хвілін/. Магчымы склад выканаўцаў — адна ці дзве флейты, адзін габой, адзін кларнет, адзін фагот, дзве валторны, адна труба, адзін трамбон, ударныя, струнны квінтэт, фартэпіяна або арфа, максімум 2 электронныя інструменты. Твор не павінен быць выкананы ў канцэрце або апублікаваны. Ад будучых удзельнікаў аргкамітэт фестывалю чакае шэраг дакументаў /у тым ліку ананімную партытуру з пазнакай кода/ да 4 верасня 1993 г. А таксама — уступны ўзнос: 450 французскіх франкаў... Незалежнае журы абвесціць вынікі 6 верасня. Фестывальны прыз — 25 тыс. франкаў, выкананне на III туры Міжнароднага конкурсу маладых дырыжораў /у наступным годзе/. Больш падрабязную інфармацыю пра гэтае кампазітарскае спаборніцтва можна прачытаць у газеце «Музыкальное обозрение» N 9.

Тэатр

# ДАРАЖЭЙ ЗА ПЕРАМОГУ

## РЫСКІ ДА ТВОРЧАГА ПАРТРЭТА РЭЖЫСЁРА АЛЕГА ЖУГЖДЫ

Не раз апісаны й высока ацэнены прафесійнікамі спектакль «Рыгорка — ясная зорка» А. Вярцінскага ўразіў публіку яшчэ на першым Беларускім міжнародным лялечным фестывалі ў 1990 годзе. Уразіў чысцінёю ўвасаблення ды летуценнасцю задумы. Радасцю стварэння ды перастварэння свету. Усмешкамі Анёлка. Разважлівасцю лайдакаватасцю Чорта. Спалучэннем-узаемаўплывам сілы й слабасці, разважлівасці ды легкадумнасці, аўтарытэту традыцыі /спектакль быў стылізаваны пад батлейку/ і наіўнага нахабства таленту пастаноўшчыка...

Наступным днём таго, мінулага, фестывалю адбываўся іншы спектакль. Таго самага рэжысёра. З тымі самымі артыстамі. Спектакль лашчыў вушы ды вочы вытанчанасцю, стрыманасцю акцёрскага выканання, нягучнасцю, стыльным вырашэннем ды ўвасабленнем чалавечых дачыненняў з лялечнымі, — «Дракон» паводле Я. Шварца. Але — не скаланаў. Не кранаў нават адмысловасцю прачытання. Не асягаў патаемнага. Не сягаў у пакрыёмае. Не шморгаў, перапрашаю, за матузочкі чалавечых жадобаў, — на сцэне адраблялі пры сваіх матузочках шляхетныя марыянеткі. Спектакль рэжысёра Алега Жугжды на вачах замілаванае публікі... дранцвеў. Асуджаўся на няпоспех. Апускаўся... долу, як у вату, у туман. Выправіць штосьці было немагчыма. Акцёры ігралі, раз-пораз падціскаючы вусны. Публіка струменіла з залы ручаінкаю. Чалавек, што заставаўся на сцэне без лялькі /ягоная роля была цалкам вырашана так званым сярод лялечнікаў «жывым планам»/, не выдаваў на нервовасць ды асуджанасць, хоць і прадстаўляў Ланцэлота. Значыць, да канца змагаўся — з Драконам. Не сыходзіў з падмосткаў да фіналу. А фінал быў пра тое, што Ланцэлоту заўсёды наканавана забіваць Дракона, які бессмяротны. І сэнс Ланцэлотавых дзеянняў, як той казаў, ці не ў самым працэсе гэтага, здавалася б, бессэнсоўнага забівання бессмяротнага. Як сэнс гульні — у самой гульні, дзе часам змаганне даражэйшае за перамогу.

...Алегам Жугждам клікалі шляхетнага доўгазмагара. Ён сам рэжысіраваў сваё сцэнічнае змагарства...

...«А ўвогуле я ўсё стаўлю пра каханне», — прызнаваўся аднойчы Алег, і мне спадабалася з ім пагаджацца. Бо ніводнае каханне не бывае ўдачай альбо перамогай, — нават бессмяротнае ды адзінокае. А я ў прынцыпе не даю веры таму, што крытык здольны паўплываць на спектакль альбо на ягонага творцу /хіба звярнуць увагу на дробныя памылкі, калі ў рэжысёра вока стамілася/. Надараюцца ж творцы ды асобы, якім зашкодна выслухваць парады ды перетлумачэнні. Мо таму, што яны ад пачатку разумнейшыя за таго, хто намагаецца радзіць ды перетлумачваць? У прапанаваным тлуме развагі пра мастацтва — марнасць марнасцяў. Яшчэ і таму, што свае супольныя задачы крытык ды рэжысёр у ідэальным /ці нармальным?/ выпадку маюцца вырашаць, так бы мовіць, у працэсе, — хоць сабе падчас працы над спектаклем. Нават іхнія непаразуменні даражэй за ісціну перамогі. «Перамога мастацтва», — усё адно як «перамога дружбы». Гэтаксама недарэчна... А спектаклі Жугжды хоць і не варагуюць з логікаю, усё-такі не падпарадкуюцца ёй ды толькі ёй. Пралічыць Жугжду немагчыма, як немагчыма прадбачыць-пралічваць каханне, пра якое ён толькі і ставіць...

У Алегавых спектаклях каханне перастрэне і вытанчаную інтэлектуальную гульню, і любы найвар'яцкі эксперымент, і «ласкавую абыякавасць свету». Каштоўнасці й безумоўнае рацыі цяпер набыла Алегава праца на працягу двух сезонаў у Брэсце, у абыякавым ды зацішным тэатральным кутку Беларусі, дзе Алег браўся за драматургію, што вымагала... кахання ды кахання. «Плыт мерцвякоў» Х. Мюлера з'явіўся, напэўна, як мастакова падсумаванне агульначалавечых чарнобыльскіх жахаў /драматург, дарэчы, адкрыта дакляраваў крыніцу свайго роздуму над пяшчотнаю сусветнаю абыякавасцю — наведанне мірным атамам кожнага дому/. «Плыт мерцвякоў» стаўся спектаклем пра чалавечую адмысловасць, адвечны трагізм жыцця ды збянтэжаную фантазію творцы. Крохкаю ды непарушнаю падавалася мадэль існавання ў спектаклі! Здавалася б, шамаценне паперы альбо пылок з матылёвых крылцаў маглі б змяніць усё у тым лялечным свеце, — але, падобна, свет з'явіўся намаганнямі, мовім так, навукоўцаў, што манерамі ды апранахамі нагадвалі ў спектаклі хірургаў. Яны ладзілі на пляцоўцы нешта пававар'яцку шчырае і жорсткае да душэўнай роспачнай істэрыі: выпраўлялі ў эксперымент маленькіх залежных марыянетак, увасабляючы першыя рэмаркі драматурга пра чалавека, выкінутага за межы абжытае прасторы, адносна бяспечнай для жыцця. Гэты чалавек быў безнадзейна атручаны дабротамі цывілізацыі і важдацца з ім было надта вялікім клопатам. За сценамі горада /ніякіх відавочных паралеляў са знаёмымі выявамі ды сюжэтамі рэжысёр не даваў/ чалавек сустракаў падобных да сябе небаракаў. Дужэйшы прымушаў яго ператварыцца ў... каня і везці ў адносна чыстую зону. Слабейшага яны заспявалі сярод кучы абутку, — ён па-вар'яцку шчасліва бавіўся згадкамі пра тых, каму гэтыя атопкі маглі належаць. Паводле прапанаванай сітуацыйнай мадэлі /рэпетыцыя выжывання?/ да кампаніі далучалася знявечаная прыгажуня, — каб надаць эксперыменту... найтрывалай матэрыяльнасці пачуццяў: з нічога, з пустэчы выпаленай атамам душы ды з помслівага здратаванага наваколля вынікнула... каханне... Марыянеткі, выпхнутыя за межы здаровага розуму нейкаю звышрацыянальнаю неабходнасцю эксперыментатараў, бараніліся ад абыякавасці няласкавага, спляжанага свету... Мусіць, бараніліся каханнем. Каханне ж набывала самыя няпростыя формы, прадыктаваныя перадусім рэжысёрам Алегам Жугждам: то згадкі пра мінулае суправаджаліся настальгічнаю музыкай, — класічнаю і пачатку нашага стагоддзя, то радасці ад кавалачка скрадзенага ў суседа зяленіва перапыняліся пакутамі марыянеткавай годнасці, то выродлівае дзіцятка маўкліва абурала сваім нараджэннем добры густ глядзельнае залы, — дзіцятка атрутнага кахання на плоце... /Алег, дарэчы, часцяком аддае перавагу марыянетцы, — ці не самай складанай ляльцы, бо яна вымагае ад лялечніка... гранічнага падпарадкавання. Не ён мусіць кіраваць ёю, — ілюзія мае быць адваротнаю! Шкада, што агульная акцёрская тэхнічнасць у нашых тэатрах мала стасуецца з запатрабаваннямі Жугждавай рэжысуры. Мне ж здаецца, што сёння яна набывае кшталт вытанчана-нацыянальнай, дэманструючы гэта нацыянальнае самым інтэлектуальным чынам, ды якасці першай, — лідзіруючай.../ Розначасовыя пласты спалучаліся ў спектаклі, працінаючы адно аднаго. Этыка дачыненняў мелася вызначыць эстэтыку спектакля, — але прапанову мастака В. Рачкоўскага да належнага ўзроўню не паднялі дэкаратары, і эстэтыку загубіла не лепшым чынам выштукаваная канструкцыя — лялечная скрыня ды абыякавая берасцейская сцэна...

...Раз-пораз, ускладняючы ўмовы эксперыменту, лялечным пакутнікам мянялі месцы дзеяння, а гледачам сурова нагадвалі праз дынамік, колькі кіламетраў засталося да чаканага горада-выратавання. Плыт, на які пашэнціла ўзбіцца хаўруснікам, імкнуў па атручанай рацэ. Берагі ашчапераваліся звар'яцелымі жывёламі ды неядомымі раслінамі. Спадары эксперыментатары пільнавалі свае ахвяры праз адтуліны ў канструкцыі, — хто хціва, хто хітравата, хто наіўна ды з павагаю да непазбежнасці. Л. Мікуліч, У. Тэвасян, Ю. Сарычаў, А. Матвееў /ім дапамагаў І. Герасевіч/ працавалі не тое каб несыграна, — з рознаю ступенню разумення й паразумення з лялечнымі партнёрамі... У эпілогу ім выпадала ўрачыста паласавацца шампанскім: эксперымент удала скончыўся гібеннем усіх, хто быў на плыце. Але, удакладняў рэжысёр, скончыўся самімі і няшчаснікамі, якім перападалі толькі жарынкі зацікаўленага спачування Ларысы Мікуліч. Яны ратаваліся каханнем, якое гэтым разам нікога не ўратавала. Бо і яго трэба было бараніць...

Другім берасцейскім эксперыментам зрабіўся спектакль «Зязюлька» паводле народнага падання пра каханне дзяўчыны з вужакам. П'еса Уладзіміра Граўцова была напісана з пэўнымі патрабаваннямі Алега Жугжды і асноўнаю задачаю драматурга было выштукоўванне дыялогаў, — і яны, мяркую, найменш удаліся яму. А работу Алега пазначыла спалучэнне часоў ды часінаў: з талеркі рэпрадуктара, з сумесі абвестак, аб'яў, мелодый вынікала атмасфера неканкрэтызаванай мінуўшчыны. Той, якую кожны ў стане асягнуць розумам ды роздумам. Мінуўшчыны, у якой лішак чорных ды белых плямаў перараджаўся ў плямы-радзімкі. Дрэва жыцця мастачкі Ларысы Мікінай апанавала няўклюдна-нетэатральную прастору берасцейскіх падмосткаў. З яго, як ікона, выступалі выявы продкаў, ля яго ладзіліся святы, віравала жыццё й мары. Дзяўчына мусіла спазнаць свой лёс праз вяночак, які зносіў вужака, — ён з'яўляўся тутсама, у крыніцы ля каранёў дрэва. Сцэнаграфія ненавязліва падказвала самыя няпростыя здагадкі: як час працінае час, як лёс вызначае выпадковасць, як выпадковасць прадвызначана, як «вужакі сыкаюць на сэрцы, душа качаецца ў балоце», але з шэрагу вужакаў з'явіцца і той, каго прызначыў дзяўчыне Бог-каханне... Думкі празрыстыя. Дэталі спектакля — тэлефон ля куфра, стол-крыніца, выява продкаў — ікона, чырвоныя пырскі ўяўнае крыві на шыбіне-люстры ў сцэне гібення Вужа, лялькі з анучак, дачыненні з якімі нагадвалі тэатр прадметаў і, галоўнае, залежнасць — матэрыяльная, ментальная, фізічная і любая іншая залежнасць будучыні ад мінуўшчыны, абсалютная повязь часоў-пачуццяў, прадвызначанасць лёсу.

«Зязюльку» Алег Жугжда прадставіў і на другім Беларускім міжнародным лялечным фестывалі. Магілёўскую, бо двухгадовыя выпрабаванні берасцейскім каханнем ды мастацтвам сталіся даражэйшымі за перамогу над неспрыяльнымі варункамі і неўразумелымі дачыненнямі з дзяржаўнымі тэатральнымі адміністратарамі. Магілёўскі спектакль скараціўся... у часе й прасторы. Збяднеў, а кажуць — ачысціўся ў прыёмах, дачыненнях і вобразнасці. Фактура дрэва замянілася на сталёвы бляск жалезнага дуба. Лялькі зрабіліся драўлянымі і адна з іх, — галоўнай гераіні, — займела чырвонае сэрцайка. Выбітным кантрастам вырашаліся сцэны ў Вужа і ў сялянскай хаце. Няблага спрацавалі і акцёры, сярод якіх памянёным «жывым планам» працаваў і спадар рэжысёр. Спектакль не скаланаў, але моцна ўражваў асяганнем патаемнага, прыхаванага ў глыбінях чалавечай псіхікі. Але — адбываўся нібыта за сцяною. Апускаўся... долу, як у вату, у туман. Дранцвеў на вачах замілаванае публікі. Але публіка не ішла з залы...

Нешта сталася даражэйшым за «перамогу мастацтва» на асобна ўзятай пляцоўцы Дзяржаўнага тэатра лялек. Няўжо — каханне?..

**Жана ЛАШКЕВІЧ**



*Ларыса Мікуліч /Ядвіся/ у спектаклі «Зязюлька» У. Граўцова Магілёўскага лялечнага тэатра.*

*Фота Ірыны ГУДЗІЕЎСКАЙ*

Музыка

# ЦІ ЛЁГКА БЫЦЬ МАЭСТРА?

## ЗАЦІКАЎЛЕНЫ ПОЗІРК «ЗБОКУ»

Аркестр і дырыжор... Па-рознаму ладзяцца іх узаемаадносіны. Вядома, «Рэпетыцыя аркестра» Ф. Феліні — разгорнутая паэтычная метафара. Але чаму ў апошні час гэты фільм успамінаецца мне ўсё часцей, растуць трывожныя прадчуванні? Мо таму, што процістаянне, якое ўзнікла ў аркестры Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Беларусі, ужо зрабілася фактам нашага жыцця: яно нараджае гарачыя спрэчкі, уцягвае ў сваё кола ўсё новых людзей... Я не журналіст, а музыказнаўца, і не прэтэндую на ролю трацейскага суддзі. Але, можа, і мой, досыць суб'ектыўны позірк акажацца тут карысным?

Нагадаю пачатак. Валерый Лявонаў увайшоў у музычнае жыццё Беларусі імкліва і не без трыумфу. У 1989 годзе быў абвешчаны конкурс на замяшчэнне пасады мастацкага кіраўніка і дырыжора Сімфанічнага аркестра Дзяржтэлерадыё Беларусі, які доўгія гады ўзначальваў Барыс Райскі. Месца прэстыжнае... Прэтэндэнтаў набралася чалавек дзесяць з розных гарадоў былога Саюза. Аматары прагнозаў пагаворвалі пра найбольш рэальныя шанцы двух тутэйшых — людзей здольных і добра вядомых у калектыве. Умовай конкурсу было за адну гадзіну падрыхтаваць незнаёмую партытуру і правесці па ёй рэпетыцыю з аркестрам. І вось нечаканасць: агульныя сімпатыі аказаліся на баку невядомага ў нас дырыжора з Луганска. Уразіў яго прафесіяналізм, сталы вопыт у спалучэнні з вялікай энергіяй ды імпэтам.

Так Валерый Лявонаў апынуўся на чале творчага калектыву. Неўзабаве ён завітаў у Саюз кампазітараў, каб наладзіць кантакты з суполкай, асобнымі творцамі. Ініцыятывы яго былі цікавымі, перспектывы супрацоўніцтва вабілі.

З цягам часу даведаліся, што В. Лявонаў — сібірак. Вучыўся ў Санкт-Пецярбурзе. Мае дзве дырыжорскія спецыяльнасці: харавік і сімфаніст. Атрымаў выдатную школу ў І. Мусіна і Ю. Цемірканава. Пяць гадоў працаваў у Новасібірскім тэатры оперы і балета, дзе ажыццявіў пастаноўкі «Трубадура», «Шапэніяны», «Сільфіды», авалодаў вялікім оперным, пераважна класічным, рэпертуарам. Потым сем гадоў у Луганску ўзначальваў сімфанічны аркестр філармоніі. Тут раскрыўся асветніцкі дар Лявонава, у поўнай меры выявіліся яго прафесійныя карані: прыхільнасць да эстэтычных ідэалаў пецярбургскай школы, яе культурных каштоўнасцей. Ігралі Брукнера, Малера, Стравінскага. Амаль што галоўнай музычнай акцыяй было выкананне «Страсцей паводле Іаана» І. С. Баха. Разам з тым гучалі партытуры сучасных украінскіх кампазітараў. Відаць, добра гучалі, калі дырыжор за такі кароткі тэрмін быў ганараваны званнем заслужанага дзеяча мастацтваў рэспублікі. Быў прэстыж /потым Валеры Пятровіч іранічна скажа: «геній мясцовага маштабу» /, жыццёвы камфорт і дабрабыт. Але ж не было творчага задавальнення. Прафесійная «столь» аркестра, як яе ні падымаў, аказалася невысокай. Хіба перасягнеш аб'ектыўныя дадзеныя? І вось тут — перамога ў конкурсе на Беларускім радыё. Перад славалюбівым маэстра адкрыліся новыя творчыя гарызонты.

Аднак ці ўсведамляў тады дырыжор усю складаную спецыфіку працы аркестра радыё? Не ведаю дакладна... Уся праца праходзіць у студыі — цесным памяшканні, якое цяжка праветрыць, са сценамі, шчыльна абабітымі гукаізаляцыйным матэрыялам, з лямпамі дзённага святла. Сама гэтая атмасфера дрэнна ўплывае на псіхіку. А калі яшчэ зарплата ніжэй, чым у іншых аркестрах, і рэпертуар абмежаваны, ды і «пісаць» музыку можна кавалкамі — усё роўна будуць манціраваць. Вось і спадзявайся на любоў да мастацтва ды прафесійную сумленнасць. Але ж, здаецца, яны тут ёсць. Больш таго — ёсць пачуццё прафесійнай годнасці, нават спартыўны азарт: маўляў, усё можам!

Давялося мне прысутнічаць на рэпетыцыі аркестра, дзе развучвалі Першую сімфонію Брамса. Лявонаў быў удумлівы, дамагаўся ясэнсаванасці кожнай музычнай фразы, шматлікія ягоныя тлумачэнні датычыліся спецыфікі стылю кампазітара. Аркестранты стамляліся. Скрупулёзнасць дырыжора раздражняла. К канцу другой гадзіны экспазіцыя першай часткі была пройдзена па кавалках, і вось нарэшце загучала цалкам. Загучала тэхнічна чыста, у стылі, а галоўнае — вельмі выразна. У такіх выпадках гавораць — здарыўся цуд. І было вельмі крыўдна, што, акрамя мяне, адзінага слухача «збоку», іншых сведкаў гэтага цуду не было.

Дык ці ёсць плён ад працы дырыжора з аркестрам? Адназначна, ёсць! На маю думку, вялікі і разнастайны. Не так даўно мы на мастацкай радзе прымалі запіс Шостай сімфоніі Чайкоўскага, аднаго з найскладаных твораў сусветнага класічнага рэпертуару. Прэтэнзій да выканання яго аркестрам Дзяржтэлерадыё было нямала. Але тое, што ён наогул змог падняць гэтую махіну, уражвала як адзнака пэўнага ўзроўню прафесіяналізму. І не дзіўна, што і творы беларускіх кампазітараў /яны з'яўляюцца асноўным «прадуктам» аркестра/ загучалі апошнім часам больш значна, больш дасканала. Вядома ж, на чым, як не на высокай класіцы, выхоўваць аркестрантаў? І тое, што дырыжор не толькі «гоніць план», а і дбае пра творчы рост калектыву, пра мастацкае ўдасканаленне /адным словам, выхоўвае/, здаецца мне справай не толькі высакароднай, але ж і перспектыўнай.

Але вернемся да рэальных вынікаў. Большасць прэм'ер беларускай музыкі апошніх гадоў звязана з імем Лявонава. Музыкантам не трэба тлумачыць, што ёсць першае выкананне нікому невядомага твора. Лёс новага опуса цалкам залежыць ад таленту, чуласці і добрасумленнасці дырыжора. Лявонавым зроблена шмат запісаў у фонд радыё. Семнаццаць сімфоній, балетныя сюіты, кантаты, канцэрты для розных інструментаў, — усяго нават і не пералічыш! Сярод твораў такія складаныя, як Шостая, Сёмая і Восьмая сімфоніі Д. Смольскага, Другая У. Дамарацкага, Трэцяя А. Соніна, сюіта з балета «Анафема» А. Мдзівані. Узровень выканання мастацка дасканалы.

Наогул, В. Лявонаў неабыякавы да твораў, з якімі ён працуе. Можа нават умяшацца ў аўтарскі тэкст. У нейкіх выпадках ягоныя парады прымаюцца кампазітарамі, і партытуры ўдасканальваюцца непасрэдна падчас рэпетыцыі. Іншым разам узнікаюць спрэчкі, і вельмі гарачыя. Пра гэта расказваў мне У. Дарохін, заўважыўшы: «Але ж гэта былі спрэчкі па творчых пытаннях, цікавыя па прафесійным змесце».

У В. Лявонава мяне асабіста вабіць яго «творцкасць», імкненне абавязкова знайсці сваё, асабістае бачанне мастацкага твора. Вядома, калі гаворка пра першае выкананне — то яно і робіцца ўзорам для іншых. А калі рэчы вядомыя? У «ЛіМе» мне ўжо даводзілася пісаць пра аўтарскі канцэрт Г. Вагнера, дзе Лявонаў прадставіў хрэстаматыйныя творы масцітага кампазітара па-новаму, так, што яны зайгралі свежымі фарбамі, у іх выявіліся новыя сэнсы. На мой пагляд, той канцэрт — адзін з найвышэйшых творчых узлётаў дырыжора і аркестра. Дарэчы, ён адбыўся ў Вялікай зале філармоніі.

Так, аркестр радыё ўсё часцей з'яўляецца ў новай іпастасі — як калектыў канцэртны. І ў гэтай галіне ягонай дзейнасці адчуваюцца зрухі ў лепшы бок. Калі я параўноўваю выкананне Восьмай сімфоніі Д. Смольскага аркестрам Дзяржтэлерадыё і Акадэмічным аркестрам, то разумею, што першы ўжо стаў канкурэнтаздольным. Яго выкананне ўспрымалася нават як больш выразнае, натхнёнае. А для Саюза кампазітараў наогул аркестр, асабліва ж ягоны кіраўнік /ён часам выступае і з акадэмічным калектывам/, даюць амаль што адзіную магчымасць правесці паўнацэнны форум нацыянальнай музыкі. Памятаю выпадак, калі В. Лявонаў за кароткі тэрмін падрыхтаваў усе сімфанічныя праграмы з'езда беларускіх кампазітараў. Гэта быў унікальны вопыт.

Аўтарытэтнага маэстра запрашаюць і ў іншыя калектывы. Ён шмат гастралюе, у тым ліку за мяжой. У апошні час нават са сваім калектывам.

Гэта ўсё аб'ектыўныя факты, так бы мовіць, творчыя вынікі. Яны на адным баку шаляў. На другім — няпросты характар маэстра. Разумею, «чалавечы фактар». Але няўжо ў творчых стасунках, у жыцці мастацкім правіць баль будзе пабытавая свядомасць?

**Радаслава АЛАДАВА**

# РАХМАНІНАЎ НА ТРЫ ГАЛАСЫ, З РАЯЛЕМ І...

Зайздросцяць у наш час, аказваецца, і меламанам. Уздыхаюць, пачуўшы ад відавочцаў: прамінулі вы, маўляў, нешта тако-ое...

«Такое» было нядаўна ў Клубе сяброў оперы. Ураджанні вызначаюцца літаральна двума словамі: канцэрт-загадка. Загадкавым, аказваецца, можа быць і даўно знаёмае.

Год С. Рахманінава. Вечар ягоных рамансаў у фае 2-га паверха ДАВТа і наладзіў Клуб. Было надзіва шмат зацікаўленага і эмацыянальна адкрытага люду. Было ўрачыста: зіхоткія свяцільнікі, арыстакратычна элегантны раяль, запозненыя чэрвеньскія ландышы ля вялікага загадкавага фота — фота віртуознных рук Рахманінава-піяніста. З любасцю аформленая праграмка. Высакароднаямяккасць гаворкі гаспадыні Клуба Алены Саламахі. І музыка, музыка...

Настрымная ды бліскучая, пышчотная ды пачуццёва-прытоеная. Загадкавая. Смутак, трапятлівае чаканне, сумнеў, гнятлівы боль, радасць, меланхолія на мяжы адчаю... І ўсё гэта ў адной-адзінай невытлумачальнай рахманінаўскай душы, «двайніком» якой зрабілася музыка, злучаная з вершамі А. Пушкіна, А. Фета, Ф. Цютчава, А. К. Талстога, А. Галянішчава-Кутузава, Д. Меражкоўскага ды інш. Нават самыя вядомыя рамансы — «Я жду тебя», «Я тебе ничего не скажу», «В молчанье ночи тайной», «Не пой, красавица, при мне», «Здесь хорошо» — здаваліся непазнавальнымі, гучалі нязлоўна інакш у параўнанні з раней чутым выкананнем. Гучалі, чаргуючыся, мецца-сапрана ды барытон: спявалі ў гэты вечар салісты оперы Нагіма Галеева і Віктар Скарабагатаў, з раялем была Ганна Каржанеўская. Уразіла і малазнаёмая вакальная лірыка Рахманінава, прынамсі, трагічнае самараскрыццё ў рамансе «Хрыстос уваскрос» на вершы Д. Меражкоўскага і асаблівы інтэлектуальны гумар «Ліста да К. С. Станіслаўскага» са словамі аўтара /абодва творы выканаў В. Скарабагатаў/.

Чароўнае мецца Н. Галеевай, непаўторны барытон В. Скарабагатава, праніклівы раяль Г. Каржанеўскай... А быў жа яшчэ адзін галас. Мо самы загадкавы, бо тое, пра што спяваў, ён распавядаў без слоў. Далучыўшыся да голасу салісткі /раманс «В моей душе»/, ён дадаў у палітру пачуццяў подых экзатычнасці ды прыцішаную страсць. Потым у ансамблі толькі з канцэртмайстрам /якую так хочацца назваць салісткай!/, ён выканаў «Маргарыткі» — тэкст І. Северяніна застаўся, маўклівы, на друкаваным дадатку да праграмкі. А папулярны «Вакаліз» на пачатку ІІ аддзялення падаўся ў ягонай інтэрпрэтацыі канцэртнай п'есай, напісанай нібыта і... не для жаночага голасу, а для голасу флейты. Інструмент саліста Уладзіміра Бурага гучаў у «Вакалізе» так, быццам бы адкрылася ў ягонай флейце боскае дыханне, і заспявала яна пра вечнае пачуццё — зменлівае, але несканчонае, як вечны рух аблокаў на небе.



*Удзельнікі праграмы: У.БУРЫ, Н.ГАЛЕЕВА, Г.КАРЖАНЕЎСКАЯ, В.СКОРАБАГАТАЎ.*

*Фота У.ПАНАДЫ*

Тое, што падрыхтавалі чацвёра знаных артыстаў, было пазначана высокім эстэтычным густам і уменнем скампанаваць манаграфічную праграму, стварыўшы тонкую драматургію музычных вобразаў, эмацыянальных пераходаў і тэмбраў.

Ну, а шматкроп'е ў загалоўку маіх нататкаў азначае ўжо іншую адметнасць канцэрта: слухачку з дзіцем, якое раз-пораз пачынала румзаць, ды слухачку з сабакам, якога «не было з кім пакінуць» і які, хоць мітусіўся, голасу не падаваў... Ды чыста жыццёвы кантрапункт не адцягнуў увагу ад галоўнага: музыка засталася музыкай.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

Наш каляндар

80 гадоў назад, 2 ліпеня 1913 года, Янка Купала завяршыў у Акопах паэму **«Магіла льва»**.

□

90 гадоў з дня нараджэння латышскага пісьменніка, перакладчыка, заслужанага дзеяча культуры Беларусі **Юлія ВАНАГА** спаўняецца 8 ліпеня /1903—1986/. Пераклаў многія вершы і паэмы «Над ракою Арэсай» і «Тарасова доля» Янкі Купалы. У яго ж перакладзе выйшлі на латышскай мове кнігі «Беларускія народныя казкі» /у апрацоўцы А. Якімовіча/, «Дрыгва» Якуба Коласа, «Людзі на балоце», «Подых навальніцы» І. Мележа, «Гандлярка і паэт», «Шлюбная ноч» І. Шамякіна, «Птушкі і гнёзды» Я. Брыля, «Карнікі» А. Адамовіча і іншыя. Творы Ю. Ванага ў сваю чаргу перакладалі Я. Брыль, В. Вітка, Х. Жычка...

□

105 гадоў з дня нараджэння літаратуразнаўцы **Аляксандра ВАЗНЯСЕНСКАГА** спаўняецца 17 ліпеня /1888—1966/. У дваццатыя гады ў часопісах «Полымя», «Узвышша», іншых выданнях выступаў з артыкуламі па тэорыі літаратуры і пытаннях развіцця беларускай літаратуры, тэатра. Выдаў кнігі «Паэтыка Максіма Багдановіча» /Коўна, 1926/, «Асноўныя прынцыпы пабудовы беларускай навукі аб літаратуры» /1927/, «Паэмы Янкі Купалы. Сюжэтная пабудова і стыль» /1927/.

□

80 гадоў назад, 24 ліпеня 1913 года, Янка Купала завяршыў у Акопах паэму **«Яна і я»**.

□

95 гадоў з дня нараджэння драматурга, паэта, празаіка, нарысіста, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, аднаго з пакутнікаў сталінізму, **Рыгора КОБЕЦА** спаўняецца 24 ліпеня /1898—1990/. У друку выступіў у 1923 годзе з вершамі і апавяданнямі. Апублікаваў п'есы «Гута» /1929, пастаўлена ў 1930/, «Ратуй, божа!» /разам з А. Вольным/, «А ўсё ж распяваю» /апублікаваны ў 1932 годзе/, «На заставе» /1935/, «Мігрэнь» /Хабараўск, 1940/, шэраг аднаактовак. Па яго сцэнарыях пастаўлены многія фільмы /самы вядомы з іх «Шукальнікі шчасця», 1936, разам з І. Зэльцарам/, музычная камедыя «Шчаслівы бераг» /1940, разам з С. Бытавым/. Выдаў кінааповесці «Героі Балтыкі» /Хабараўск, 1939/, «Трафім Бутан» /Хабараўск, 1940/. У аповесці «Ноеў каўчэг» праўдзіва адлюстравана перажытае ахвярамі сталінізму.

□

75 гадоў з дня нараджэння **Івана ГРАМОВІЧА** /1918—1986/ спаўняецца 26 ліпеня. Першае апавяданне апублікаваў у 1935 годзе. Выдаў каля двух дзесяткаў кніг прозы, нарысаў, для дзяцей, аўтар сцэнарыяў некалькіх дакументальных і відавых фільмаў. Плённа працаваў у галіне перакладу. У 1978 годзе выйшаў двухтомнік выбраных твораў.

□

95 гадоў з дня нараджэння празаіка **Сцяпана СЯМАШКІ** спаўняецца 27 ліпеня /1898—1965/. Аўтар кнігі апавяданняў «Пералом» /1932/, шэрагу публікацый у перыядыцы.

□

85 гадоў з дня нараджэння **Юркі ЛЯВОННАГА** /1908—1943/ спаўняецца 29 ліпеня. Выйшлі кнігі паэзіі «Камсамольскія вершы» і «Штурм» /1930/, «Жалезныя віхуры» і «Разбег» /1931/, «Выбранае» /1960/, зборнік нарысаў «Крок пяцігодкі» /1931/. У 1937 годзе разам з С. Грахоўскім пераклаў раман Ж. Верна «80 000 кіламетраў пад вадой».

# УРАЧ І ЭКСТРАСЕНС: ПРАЦІЎНІКІ ЦІ САЮЗНІКІ?

*Пачатак на стар. 5*

*В. Лістратаў. Але калі ты сам не разумееш, што ты робіш, дык ці варта наогул гэта рабіць? Адным «наитием» усяго не апраўдаеш! Спасылкі ж Конанцава і Лістратава на тое, што ў рэспубліцы няма прыбораў, якія б маглі дапамагчы вызначыць прыроду экстрасенсорыкі, зафіксаваць у чалавека пэўныя здольнасці ў гэтай справе, лёгка абвергнуў прафесар Валянцін Цімафеевіч Кандрашэнка.*

*Пусцім плёнку далей...*

**В. Кандрашэнка.** — Сёння ў медыцыне шмат зроблена па аб'ектывізацыі з'яў парапсіхалагічных феноменаў, у тым ліку і экстрасенсорыкі. У прыватнасці, наша кафедра займаецца даследаваннямі па такіх методыках, як аўраграфія па Гуляеву, біяполе па Крыялеаіну, рэгістрацыяй дыстанцыйнага кіравання біятокамі па Дэльгадэ і інш. Але ніхто з экстрасенсаў ніводнага разу не прыйшоў да нас, не папрасіў: «Здыміце ў мяне, Валянцін Цімафеевіч, аўраграму, зарэгіструйце мае энергетычныя рэсурсы, скажыце, валодаю я экстрасенсорнымі здольнасцямі, ці гэта мне толькі здаецца».

**В. Конанцаў.** — Я растлумачу, чаму экстрасенсы не ідуць да вас правярацца. Экстрасенс — не прыбор, не апарат. Гэта чалавек з вельмі тонкай духоўнай арганізацыяй, і яму вельмі важна ведаць, з кім ён мае справу, важна, каб чалавек гэты яму падабаўся, каб быў сумленным, шчырым і г. д. Калі на вашай кафедры мне не будуць верыць, ніякія прыборы нічога не пакажуць.

**В. Кандрашэнка.** — Даруйце, але ж вы са мной не працавалі, адкуль вы ведаеце, які я чалавек, і чаму вы мяркуеце, што я буду да вас неаб'ектыўным? А потым, прыбор — рэч аб'ектыўная, калі нешта ёсць — абавязкова пакажа, ну, а калі няма, дык на ўласны настрой тут спасылацца не варта. Настрой тут ні пры чым.

**В. Конанцаў.** — Яшчэ як «пры чым»! Я працую з прафесарам Мураўскай таму, што яна мне падабаецца як чалавек. Яна мне верыць.

**М. Важнік.** — Цікава атрымліваецца — калі ў экстрасенса нічога не атрымалася, ён лёгка можа вытлумачыць гэта тым, што хворы яму не спадабаўся, ці ў самога не было настрою. Паспрабаваў бы так «апраўдацца» ўрач... Яго б назаўтра звольнілі з працы.

**В. Лістратаў.** — Каб экстрасенс з карысцю ўздзейнічаў на хворага, ён павінен стварыць у сябе адпаведны настрой. Як музыкант перад выхадам на сцэну.

**М. Важнік.** — І ўсё-такі, я здзіўлены тым, што экстрасенсы ігнаруюць кафедру прафесара Кандрашэнкі, наогул кантакты са спецыялістамі-медыкамі. Ці мо яны нечага баяцца? Лягчэй, відаць, спасылацца на няпэўныя, неаўтарытэтныя ацэнкі сваёй работы — нехта нешта перадаў па факсе, нехта прыслаў пісьмо з падзякай... Хіба гэта сур'ёзна?

**Я. Чарствой.** — Васіль Іванавіч, давайце зробім так — як марфолаг, я бяру ў вашага хворага біяпсію да сеансаў і пасля іх. Калі на маім узроўні я атрымаю станоўчы лячэбны вынік, дык адразу еду на тэлебачанне і, як галоўны паталагаанатам рэспублікі, старшыня Рэспубліканскага савета навуковых медыцынскіх таварыстваў, нарэшце, як доктар медыцынскіх навук, прафесар, звяртаюся да тэлегледачоў з заклікам: «Народ, усе да экстрасенсаў, яны вылечваюць хваробы!»

**В. Конанцаў.** — Не трэба. Не буду я вам нічога даказваць. Прафесар Мураўская, з якой я супрацоўнічаю, у гэтай справе чалавек аўтарытэтны, звяртайцеся па дадзеныя да яе.

**Я. Чарствой.** — Але ж я ўжо казаў, што Мураўская — спецыяліст па прамянёвай тэрапіі ракавых хворых, яна не займаецца дыягностыкай, нарэшце, яна не біёлаг, не псіхолаг, не паталагаанатам...

**В. Конанцаў.** — Я не збіраюся нешта даказваць усім вучоным. У нас у камп'ютэр закладзены дадзеныя больш як па 60 тысячах хворых, якія звярталіся да мяне. У нас усё заснавана на адваротнай сувязі, ніякая папярэдняя аплата паслуг экстрасенса не праводзіцца. Плацяць толькі ў выпадку, калі сеансы прынеслі карысць.

**Я. Чарствой.** — Хто вызначае гэтую «карысць»?

**В. Конанцаў.** — Урачы гэтых хворых. Яны, напрыклад, фіксуюць, што пасля майго ўздзеяння ў хворага разышоўся зоб.

**Я. Чарствой.** — Што, што — зоб разышоўся?!

**В. Конанцаў.** — Так, зоб.

**Я. Чарствой.** — Гэта вы мне, марфолагу, гаворыце, што зоб можа разысціся? Вы ведаеце, з чаго ён складаецца? Ды вывучыце хоць анатомію, марфалогію чалавека. Нядаўна я даведаўся, што экстрасенсы бяруцца выводзіць з арганізма радыенукліды, і, дальбог, ад гэтай весткі ў мяне ўзняліся дыбам апошнія валасы. Апошнія пяць гадоў я займаюся ракам шчытападобнай залозы, хваробы, якая моцна распаўсюдзілася пасля чарнобыльскай аварыі, і маю ўяўленне аб тым, што такое радыенукліды, і якія з іх могуць выводзіцца з арганізма.

**В. Кандрашэнка.** — І ўсё-такі, сёння навука сабрала шмат фактаў, якія сведчаць пра тое, што такія з'явы ці феномены, як тэлепатыя, палтаргейст, псіхагенез, маюць месца. Але ўсё гэта патрабуе сур'ёзнага вывучэння. Вы ж паглядзіце, кожны лекавы сродак перад тым, як атрымаць дазвол на ўжыванне, праходзіць сотні выпрабаванняў, апрабацый на жывёле, і эксперыменты гэтыя, бывае, доўжацца гадамі. А Васіль Іванавіч Конанцаў гаворыць: «Я не ведаю, што гэта такое, але ўздзейнічаю на хворых». А вы ўпэўнены, што хоць у 5 працэнтах выпадкаў вы не шкодзіце ім?

Чаму мы, спецыялісты, былі супраць таго, каб Кашпіроўскі выступіў са сваімі сеансамі па Беларускім тэлебачанні? Калі ён прыехаў у Мінск, мы з ім доўга гутарылі і ўпэўніліся, што ён абсалютна не думае пра тое, што ўздзеянне можа быць некаму проціпаказана. Вось вы, Васіль Іванавіч, казалі, што знімаеце ў сваіх пацыентаў болі. Але ж ёсць выпадкі, калі, зняўшы боль, вы рызыкуеце жыццём чалавека. А што калі ў жанчыны пазаматачная цяжарнасць і лопнула труба, ці развіваецца гангрэнозны апендыцыт, утварылася рана, а чалавек нічога не адчувае? Пры «вострым» жываце зняць боль — значыць, «выключыць» сігнал трывогі і, калі тут не прыняць экстраных мер, можна страціць чалавека.

Пасля сеансаў Кашпіроўскага, якія ён праводзіў па Цэнтральным тэлебачанні, у многіх людзей пагоршыўся стан здароўя. Я гэта ведаю па нашай клініцы, куды ў вялікай колькасці пачалі паступаць хворыя з ускладненнямі трызнення фізічнага ўздзеяння, шызафрэніі, маніякальна-дэпрэсіўнага псіхозу. Пад уздзеяннем перадач Кашпіроўскага псіхічныя адхіленні назіраліся тады і ў многіх дзяцей. Могуць сказаць: Конанцаў — не Кашпіроўскі, але да ведама ўдзельнікаў нашай сустрэчы — сёння ў аддзяленне неўрозаў 10-й клінічнай бальніцы г. Мінска змешчана некалькі чалавек, хвароба якіх ускладнілася пасля лячэння менавіта ў Конанцава. Факт гэты зафіксаваны адпаведнымі дакументамі, і, карыстаючыся тым, што ў нас на сустрэчы прысутнічае адказны работнік Міністэрства аховы здароўя, я папрашу яго звярнуць увагу на гэтыя выпадкі. Адным словам, уздзеянне экстрасенсорыкай можа быць вельмі моцным і непрадказальным.

**В. Сякун.** — У інстытуце я пісаў дыпломную працу па гіпнозе і, помню, мне спатрэбіўся спецыяльны дазвол на гэта. І хоць я валодаю метадам гіпнатычнага ўздзеяння, ніколі не карыстаюся ім, бо не маю на гэта дзяржаўнага сертыфікату. Дарэчы, у 1926 годзе Саўнаркомам была прынята пастанова, паводле якой гіпноз меў права прымяняць урач з не менш як двухгадовай практыкай валодання гэтым метадам. Не меўшыя такога стажу маглі прымаць удзел у сеансах гіпнозу толькі ў якасці асістэнта. А сёння на тэлебачанне, на клубныя сцэны ідуць дэманстраваць сеансы гіпнозу ўсе, каму ахвота.

Я, доктар псіхалагічных навук, бяру на сябе смеласць сцвярджаць, што ніхто не ведае, што такое псіхіка, ва ўсякім разе ўсіх яе таямніц, і таму экстрасенсорнае і іншыя падобныя ўздзеянні на псіхіку трэба добра даследаваць. Гульня з ёй, кажучы па-руску, чревата...

### ПАЎЗА ДРУГАЯ

*Як, відаць, заўважыў чытач, акцэнты гаворкі за «круглым сталом» перамясціліся з упартага адмаўлення праціўнікамі парамедыцыны прызнаваць за ёй нейкія вартасці да прызнання таго, што экстрасенсорыка ўяўляе сабой даволі грозную сілу, пагарджаць якой ні ў якім разе не выпадае. Па словах прафесара В. Кандрашэнкі, сінзетывы /экстрасенсы/ выкарыстоўваюцца шырока ў амерыканскай арміі.*

*А. Ваяводскі, аўтар сістэмы псіхаэнергетычнай трэніроўкі, расказваў на сустрэчы, што ў 1983 годзе ён быў удзельнікам канферэнцыі ў Ленінградзе, на якой разглядаліся пытанні прымянення экстрасенсорыкі ў самых розных галінах чалавечай дзейнасці, у тым ліку ваеннай. У некаторых дакладах прыводзіліся такія красамоўныя факты ўжывання экстрасенсорыкі, што, у рэшце рэшт, канферэнцыя была забаронена КДБ.*

*З усяго гэтага можна зрабіць выснову: парапсіхалогія, экстрасенсорыка — надта сур'ёзныя рэчы, каб імі можна было маніпуляваць без усякага кантролю з боку той жа медыцынскай грамадскасці. Якое ж тут выйсце?*

*Паслухаем магнітафонную стужку далей...*

**В. Сякун.** — Чаму б Міністэрству аховы здароўя не ўзяцца за стварэнне цэнтра, дзе б вывучаліся праблемы выкарыстання парапсіхалогіі? Мы б, псіхолагі, на любых умовах падключыліся б да гэтай работы.

**М. Важнік.** — Мы пра гэта даўно думаем. Была ідэя стварэння праблемнай парапсіхалагічнай лабараторыі пры інстытуце неўралогіі, нейрахірургіі і фізіятэрапіі. Але дырэктар інстытута акадэмік Антонаў, які не пераносіць экстрасенсаў, сказаў, што пакуль ён тут дырэктар, лабараторыі на падначаленай яму тэрыторыі не будзе. Сёння ёсць рашэнне стварыць такую лабараторыю ў інстытуце ўдасканалення ўрачоў пры кафедры фізіятэрапіі У. Улашчыка, які, дарэчы, з'яўляецца прэзідэнтам асацыяцыі «Народная медыцына».

**Я. Чарствой.** — Вы мяркуеце, што экстрасенсы будуць супрацоўнічаць з лабараторыяй? Ім гэта не трэба.

**В. Кандрашэнка.** — Я лічу, што трэба зрабіць так, як робяць ва ўсім цывілізаваным свеце — гэта значыць, людзі, якія валодаюць экстрасенсорнымі магчымасцямі, працуюць у пары з вопытным урачом, які дыягнастуе хворага, сочыць за дынамікай цячэння хваробы і аналізуе, як на ёй адбіваецца экстрасенсорнае ўздзеянне. Але ўсё роўна, тут абавязкова трэба акрэсліць кола хвароб, пры якіх можна прымяняць метады парамедыцыны. Ёсць хваробы, якім экстрасенсорыка проціпаказана. Гэта ў першую чаргу анкалагічныя і некаторыя іншыя цяжкія захворванні.

**В. Конанцаў.** — Тут папракнулі экстрасенсаў, што яны не жадаюць супрацоўнічаць з урачамі, з той жа кафедрай прафесара Кандрашэнкі. А якая нам будзе ад гэтага карысць? Ды хай на кафедры сто разоў пацвердзяць наяўнасць экстрасенсорных здольнасцей, усё роўна ніхто не дасць нам афіцыйнага дазволу лячыць хворых.

**М. Важнік.** — Але ж вы лечыце без дазволу, абыходзячы закон.

**Я. Чарствой.** — Экстрасенсам трэба ў першую чаргу забараніць займацца дыягностыкай. За гэта павінна быць устаноўлена крымінальная адказнасць: запусціў, напрыклад, ракавую пухліну — ідзі пад суд.

**М. Важнік.** — На разгляд бягучай сесіі Вярхоўнага Савета вынесены, як вядома, Закон аб ахове здароўя. Наколькі я ведаю, шэраг дэпутатаў прапануюць папраўку да закона, якая прадугледжвае легалізацыю экстрасенсаў.

**М. Замскі.** — Як ставіцеся да гэтай папраўкі вы асабіста?

**М. Важнік.** — У Міністэрстве наконт гэтага пытання адзінай думкі няма. Але я згодны з тым меркаваннем, што трэба ствараць структуру, якая б рэгулявала дзейнасць экстрасенсаў, вызначала, як тут ужо гаварылі, кола хвароб, якім не проціпаказана прымяненне парапсіхалагічных метадаў. Дарэчы, наколькі я ведаю, Сусветная арганізацыя аховы здароўя ставіцца да парамедыцыны адмоўна...

### ПАЎЗА ТРЭЦЯЯ

*Як нагадала галоўны юрысконсульт Міністэрства аховы здароўя Любоў Іванаўна Баркова, па існуючым заканадаўстве лячэбнай дзейнасцю могуць займацца асобы з вышэйшай і сярэдняй медыцынскай адукацыяй. Але сапраўдная вартасць дыпломаў, атрыманых многімі з іх, добра вядомая. Ва ўсякім разе, урачэбны дыплом не дае ніякай гарантыі, што яго ўладальніку можна, як кажуць, з заплюшчанымі вачыма даверыць сваё здароўе. Так было, відаць, заўсёды. Прыгадаем хоць бы вядомыя «Запіскі ўрача» Верасаева, у якіх ён выкрыў невуцтва многіх, асабліва маладых эскулапаў, у тым ліку і сваё. Было б, відаць, памылковым думаць, што нешта з тых часоў змянілася ў медыцынскай справе ў лепшы бок. Мо нават і пагоршылася. Усё-такі земскі ўрач за царскім часам быў фігурай прыкметнай, аўтарытэтнай. Не тое, што сённяшні ўрач паліклінікі, які не толькі не паспявае ўважліва агледзець хворага, а нават і запоўніць на яго медыцынскую картку.*

*Цяпер аб нагаданай вышэй папраўцы да Закона аб ахове здароўя. Напярэдадні сустрэчы за «круглым сталом» мне давялося гутарыць у Вярхоўным Савеце з сакратаром Камісіі па ахове здароўя, фізкультуры і сацыяльным забеспячэнні, народным дэпутатам А. Спіглазавым. Урач па адукацыі, Аляксандр Фёдаравіч адзін з аўтараў папраўкі да закона, якая дазваляе экстрасенсам пры пэўных умовах займацца лячэбнай практыкай. «Не трэба заганяць іх у падполле, няма нічога больш небяспечнага, чым падпольны лекар», — сказаў ён, і выказаў думку, якая прагучала і з вуснаў некаторых удзельнікаў сустрэчы за «круглым сталом»: экстрасенсы павінны працаваць у тандэме з кваліфікаваным урачом, яны павінны дапаўняць адзін аднаго. Хворыя ад гэтага застануцца толькі ў выйгрышы.*

**Матэрыялы «круглага стала» падрыхтаваў і пракаменціраваў Міхась ЗАМСКІ**

## Паэзія

Віктар ГАРДЗЕЙ



### САРАКІ

Над Малым Сялом у той аўторак
На бары, у глуш, на лазнякі
Праляцела выраяў за сорак,
І якраз, якраз на Саракі!

Многа іх дадому не прыкліча
Сакавік вясёлым шумам дрэў.
Многа іх нікчэмны паляўнічы
У шляху з бярданкаю сустрэў.

Саракі шануючы, сарокі
Гнёзды ладзяць з сарака прутоў.
На глухія поймы, на затокі
Благаславёны боскі дух сышоў.

**І цяпер вакол адны турботы:**
**Хай ужо не ціснуць халады!**
**І камусьці жаляцца балоты,**
**І трывожна шэпчуцца брады.**

□

Пры святле чаромхі беласнежнай
Медуніца пырснула з канаў.
За цвіценнем буйным непазбежна
Прыйдзе ўсё, што лёс наканаваў.

Міма сонца-бакена да ночы
Па рачулцы гоніць сіняву.
Дзень жа, як уджалены, падскочыў:
Кажуць, што ступіў у крапіву.

З жаўруковай песенькай на ўлонні
Белы май шуміць аж да нябёс,
І нікога іменна сягоння
Не хвалюе чыйсьці сумны лёс.

□

Хапае слёз, хапае смутку
І ў леце спелым, і ў вясне.
У цемры кожную мінутку
Сядзяць анёлы ля мяне.

Шчыміць, пячэ святое слова,
І, знікшы ў часе неўпрыкмет,
Як зразумець мне свет нанова
І як пазнаць нанова свет?

Нямы, глухі і вінаваты.
За што? — не ведаю і сам.
На вечны сум і горыч хаты
Пакутліва глядзець вачам.

У бездань, прорву, як і ўчора,
Душа ляціць, і наўздагон
Званоў сусветнага сабора
Прабіўся ледзьве чутны звон.

І гэта міг, калі анёлы
Збіраюцца ў нябесны шлях.
І дзень прыходзіць невясёлы,
І боль не сціхнуў у грудзях.

### ДЗІКАЯ ПЧАЛА

На світанні, сонную, разбудзіць
Грэчкі пах, што дружна зацвіла,
І з пахучай ношкай не заблудзіць
На палетку дзікая пчала.

Будзе лётаць у тузе бяздумнай
За вярсту ад купіны сваёй
І не ўцяміць, што ў прыродзе тлумнай
Месца ёсць, прызначанае ёй.

Не ўтрымала пасека над рэчкай
І да вёскі інтарэс малы.
Белым шумам закіпела грэчка —
Вось і шчасце ў дзікае пчалы.

□

Віхляе сцежка лугавая
За цёмны бор, за далягляд.
Жыццё хмурынкамі сплывае
І не вяртаецца назад.

Мае турботы і пакуты
Прыйшлі адтуль, з сівых вякоў.
Гаркавы водар мяты-руты
Вільготна сочыцца з бакоў.

Журба і смутак непадробны,
Як непадробны пошум траў.
Мой лёс, на слотны дождж падобны,
Ля бору цёмнага адстаў.

Забыць бяду, забыць патолю,
Ісці, ісці пад сінявой,
І сэрца, чорнае ад болю,
Каціць па сцежцы лугавой.

Віншуем!

## ФЁДАРУ КУЛЯШОВУ — 80

***Вядомаму крытыку і літаратуразнаўцу Фёдару Куляшову —80 гадоў. Віншуем Фёдара Іванавіча з юбілеем, зычым яму яшчэ доўгіх і доўгіх год жыцця!***



# ВЫКЛАДЧЫК, ВУЧОНЫ, КРЫТЫК

У Фёдара Іванавіча Куляшова, вядомага літаратуразнаўцы і крытыка, старэйшага прафесара літаратуры Беларускага дзяржаўнага універсітэта — 80 год з дня нараджэння. Несумненна, што гэтая нагода, калі ўлічыць значнасць творчага ўкладу Фёдара Іванавіча ў развіццё беларускай даследчыцкай думкі пасляваеннага часу, з'яўляецца апраўданай падставай для роздуму над вострымі літаратурнымі праблемамі сённяшняга дня і для прыемнай душэўнай узрушанасці ўсіх, хто чытаў і чытае яго кнігі, хто слухаў яго лекцыі або проста знаёмы з ім.

Як асоба Фёдар Іванавіч надзвычай арыгінальны і цікавы чалавек. Пра тых, у каго за плячыма нямала гадоў, цяпер прынята казаць, што ён «сын свайго часу». Прычым, пры гэтым маецца на ўвазе, што жорсткі, маральна скажоны час не мог не пакінуць адбітку ў душы людзей цэлых пакаленняў. Пра Фёдара Іванавіча таксама можна сказаць, што ён «чалавек свайго часу», але з іншым удакладненнем сэнсу гэтага выразу. Фёдар Іванавіч належыць да ліку лепшых прадстаўнікоў свайго пакалення, якія супрацьстаялі ганебным тэндэнцыям свайго часу, імкнуліся захаваць чысціню сумлення. Ён арыштоўваўся і адбываў пяцігадовую ссылку ў Варкутлагу. Вырваўшыся на волю, Фёдар Іванавіч застаецца чалавекам прынцыповым, захоўвае чалавечую годнасць і павагу да людзей шчырых і прыстойных. Не ўсе ж і ў тыя страшныя сталінскія гады пакорліва паддаваліся агрэсіі зла і няпраўды.

Пабыўшы ў зняволенні, Ф.Куляшоў не мог не разумець хоць бы ў нейкай меры злавеснай сутнасці сваёй эпохі. Мне здаецца, што і славутая яго іронія як самая яскравая адзнака характару нейкім чынам звязана з яго светапогляднымі перакананнямі.

Асаблівасць Ф.Куляшова як даследчыка і крытыка ў тым, што ён пачынаў навукова-творчую дзейнасць з вывучэння рускай класічнай літаратуры. Чытаючы па ёй курсы лекцыі ў розных вышэйшых навучальных установах Расіі, а пасля і Беларусі, ён, натуральна, звяртаў увагу на праблемы, тэарэтычна недастаткова прасветленыя ў гісторыі рускай літаратуры, хоць рускае літаратуразнаўства заўсёды мела высокі навуковы ўзровень. Сваю першую кнігу Фёдар Іванавіч асмеліўся выдаць пра творчасць Л.Талстога /»Жизнь и творчество Льва Николаевича Толстого», Мн., 1953/. Выйшлі таксама кнігі пра жыццё і творчасць А.Чэхава, пра сатырычную паэзію М.Някрасава, пра М.Горкага. Апублікаваны яго «Лекции по истории русской литературы конца XIX— начала XX в.» — пра самы багаты і складаны перыяд у гісторыі духоўнай культуры Расіі. І асаблівая любоў Фёдара Іванавіча — А.Купрын. Кніга Ф.Куляшова «Творческий путь А.И.Куприна» вытрымала некалькі выданняў. Пра глыбокую дасведчанасць Фёдара Іванавіча ў творчасці гэтага выдатнага рускага пісьменніка пацвярджае і тое, што пад яго рэдакцыяй і з яго ўступным артыкулам у Маскве выйшаў дзевяцітомны збор твораў А.Купрына. Нічым падобным, здаецца, ніхто з беларускіх крытыкаў пахваліцца не можа. Адна з рэцэнзій на другое выданне кнігі «Творческий путь А.И.Куприна» называлася «Новае пра Купрына».

Думаецца, што і выбар творчасці А.Купрына для пажыццёвай зацікаўленасці і асабліва пільнага навуковага даследавання не выпадковы ў творчай біяграфіі Ф.Куляшова. А.Купрын — паслядоўны рэаліст, прыхільнік праўды ў мастацтве, апазіцыянер да ўсякага зла як у жыцці, так і ў літаратуры. Хоць творы А.Купрына зрэдку выдаваліся пры Савецкай уладзе, але сур'ёзных навуковых прац, прысвечаных яго творчасці, было няшмат. Імя пісьменніка ў той час, калі Ф.Куляшоў распачынаў сваё падрабязна-педантычнае /у лепшым сэнсе гэтага слова/ і маштабнае даследаванне, яшчэ выклікала падазронасць і эмацыянальную непрыхільнасць з боку афіцыйных ідэалагічных органаў за хісткую пазіцыю ў адносінах да бальшавікоў, за асабісты ўдзел у антыбальшавіцкай прапагандзе ў час грамадзянскай вайны і, урэшце, за доўгатэрміновую эміграцыю. І хоць пісьменнік пад канец жыцця вярнуўся на радзіму і пакаяўся за свае памылкі, не ўсё даравалася яму, пляма на яго імені ва ўяўленні тых, хто кіраваў ідэалагічнымі службамі, трымалася нязводнай доўга. Мне здаецца, уклад Ф.Куляшова ў даследаванне гісторыі рускай класічнай літаратуры не ацэнены належным чынам перш за ўсё рускімі літаратуразнаўцамі.

Многія артыкулы Фёдара Іванавіча прысвечаны творчасці І.Буніна, Л.Андрэева, У.Караленкі, У.Маякоўскага і іншых выдатных мастакоў слова Расіі.

Аднак Ф.Куляшова не пакідала і пачуццё вострай зацікаўленасці працэсамі развіцця роднай беларускай літаратуры. У 1961 з'яўляецца яго кніга «Міхась Лынькоў. Нарыс пра жыццё і творчасць». За ёю выходзяць «Эцюды аб прозе», «Іван Мележ. Літаратурная біяграфія», «Подвиг художника. Литературный путь И.Мележа», «Літаратурныя партрэты», «У дарозе. Літаратурна-крытычныя артыкулы». Апублікавана шмат артыкулаў і рэцэнзій па бягучых пытаннях сучаснага літаратурнага жыцця.

Трэба адзначыць, што Фёдару Іванавічу хутка стаць літаратарам, якому ўласціва глыбокая, праніклівая і прафесійна сталая думка, вельмі дапамагла вывучка на класічных узорах рускай літаратуры і крытыкі. Аднак важнейшай плённай асаблівасцю творчай манеры Ф.Куляшова як даследчыка і крытыка стала не адштурхоўванне ад гатовых тэарэтычных формул, хай сабе інтэлектуальна змястоўных і дасканала сканструяваных, а пастаянная гатоўнасць ісці ад жывой і хвалюючай літаратурнай рэчаіснасці. Як даследчык і крытык ён вельмі чуйны да новых, перспектыўных з'яў у літаратурным жыцці. Ф.Куляшоў быў адным з першых беларускіх крытыкаў, якія практычна, гэта значыць — навукова доказна прадказалі росквіт вялікага таленту І.Мележа.

Выступаў Фёдар Іванавіч зацікаўлена з артыкуламі і рэцэнзіямі таксама па творах П.Пестрака, А.Куляшова, І.Чыгрынава, Б.Сачанкі. Адзін пералік зробленага ім сведчыць пра жывую ўключанасць яго ў бягучы літаратурны працэс. Аднак, бадай, як у рускай, так і беларускай крытыцы яму найлепш удаецца жанр нарысу творчасці. Дзякуючы яму гэты жанр і колькасна і якасна стаў багацейшым, асабліва на беларускай крытычнай ніве.

Ф.Куляшову як даследчыку і крытыку ўласцівы жывасць і тонкасць літаратурнага выказвання, уменне раскрыць сутнасную выразнасць мастацкага вобраза, знайсці сэнсавую глыбіню літаратурнага сімвала, вызначыць творчую індывідуальнасць пісьменніка. Несумненна, што творчасць тых пісьменнікаў, пра якіх пісаў Ф.Куляшоў, успрымаецца тымі, хто чытаў яго кнігі і артыкулы, з больш дакладным сэнсавым разуменнем і больш тонкім эмацыянальным адчуваннем.

З юбілеем Вас, дарагі Фёдар Іванавіч!

**Віктар КАВАЛЕНКА**

# МУЗЕЮ «МЕНКА»— БЫЦЬ!

У дзень святкавання Міжнароднага Дня музеяў на берагах Пцічы каля вёскі Строчыцы адбылося ўрачыстае адкрыццё чарговага экспазіцыйнага сезона Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту. У рознай стадыі рэстаўрацыйна-аднаўленчых работ тут знаходзіцца каля трыццаці помнікаў народнага дойлідства. Сёлета для наведвальнікаў адчынілі свае дзверы тры сядзібы: з вёсак Агароднікі Слуцкага, Волева Дубровенскага, Будзічы Докшыцкага раёнаў. Сядзібамі з Волева і Будзіч адкрыты экспазіцыйныя сектары «Падняпроўе» і «Паазер'е». Асаблівую цікавасць уяўляе сядзіба з вёскі Будзічы. Яна складаецца з чыстага двара і гаспадарчага, з дзяннікам. На чыстым двары — хата з сенцамі і варыўнёй. Да хаты прыбудавана майстэрня, тут гаспадар вырабляў калаўроты. Насупраць — клець, паветка, свіран. За шырокімі варотамі — пляцоўка-дзяннік, вакол якой размешчаны хлявы. Ёсць тут і «хатка» батрака. Усе памяшканні сядзібы напоўнены разнастайным і арыгінальным этнаграфічным начыннем: прадметамі побыту, працы, рамёстваў.

Сёлета на ўрачыстае адкрыццё сезона прыехала шмат гасцей. Былі прадстаўнікі Белдзяржуніверсітэта, Інстытутаў гісторыі, мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі, Галоўмінскархітэктуры і іншых устаноў, якія працуюць над стварэннем музея.

Перад гасцямі з цёплай прамовай выступіў Георгій Ткацэвіч, дырэктар музея. Упрыгожылі свята сваімі звонкімі, пявучымі галасамі дзеці. Дзяўчаты і хлопчыкі з фальклорна-этнаграфічнага ансамбля «Жалейка» /клуб Мінскага завода вылічальнай тэхнікі, кіраўнік Людміла Рыжкова/ гукалі вясну, вадзілі карагоды перад уніяцкай царквою з вёскі Логнавічы. А ў самой царкве кранаў душу і сэрца пяшчотны голас заслужанай артысткі рэспублікі Таццяны Мархель, яна спявала журботныя і вясёлыя народныя песні. Суправаджаў незвычайную песенную дзею Таццяны Мархель музычны акампанемент — скрыпка, ліра, дуда, дудачка. Ігралі на гэтых інструментах наш вядомы музыка Уладзімір Пузыня і ягоны сын Алесь. Адбылася прэм'ера зробленай па заказе музея традыцыйнай батлейкі /мастак Т. Рэдлін/.

У грамадскім свірне з вёскі Касарычы разгарнулі выставу малюнкаў гурткоўцы студыі відарыснага мастацтва «Каляровы аловак» /кіраўнік Ірына Фокіна/. На некаторых малюнках можна было ўбачыць помнікі драўлянага дойлідства нашага музея: млын-вятрак з Паазер'я, сядзібы пагоннага тыпу з

## АНТОН ШУКЕЛАЙЦЬ:

# «У БЕЛАРУСІ АДБЫВАЮЦЦА НЕЗРАЗУМЕЛЫЯ ПАДЗЕІ»

БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА: ЖЫВЫЯ ГАЛАСЫ

**-- Спадар Шукелайць, мне неаднойчы даводзілася чуць у эміграцкіх асяродках, што вас называюць беларускай легендай Амерыкі. Якая яна — беларуская Амерыка?**

— Беларуская Амерыка, на жаль, пакуль маладаследаваная і малавядомая на Беларусі. Але, на маю думку, гэта надзвычай унікальны і незвычайны феномен, створаны беларускай эміграцыяй у Амерыцы.

**— Тым больш, што беларускі грамадскі рух у Амерыцы аформлены арганізацыйна і юрыдычна.**

— Безумоўна. У ЗША ёсць цэлы шэраг беларуска-амерыканскіх арганізацый, зачартараваных у судзе, як арганізацыі, якія могуць дзейнічаць па цэлай Амерыцы. Яны маюць свае статуты і мэты і стараюцца іх рэалізаваць.

**— Адной з найбольш беларускіх арганізацый у Амерыцы з'яўляецца Беларуска-амерыканскае задзіночанне — БАЗА , — якое ачольваеце вы?..**

— Так, але БАЗА ёсць не адзіная ў Злучаных Штатах Амерыкі арганізацыя грамадска-палітычнага і дапамаговага характару. Ёсць арганізацыі большыя і меншыя. Сярод большых — Беларускі кангрэсавы камітэт. Хоць ён розніцца з намі арганізацыйнай структурай і да нядаўняга часу палітычным кірункам, — усе ж гэтая арганізацыя вельмі паважная ў Амерыцы. Ёсць меншыя арганізацыі. Напрыклад, частка Нью-Йоркскага аддзела БАЗА, якую ўзначальвае Кастусь Мярляк.

**— Спадар Щукелайць, раскажыце, калі ласка, калі і як утварылася БАЗА?**

— БАЗА заснавана ў 1949 годзе і зачартаравана як амерыканская арганізацыя ў 1950 годзе. Яна ёсць арганізацыя сяброў. Гэта значыць, мы маем аддзелы, іншыя арганізацыі ўнутры нашай галаўной арганізацыі. На нашым чартары працуе арганізацыя моладзі. А ў арганізацыі моладзі ёсць танцавальны гурток «Васілёк» і стыпендыяльны фонд імя Івана Любачкі.

Мы маем таксама арганізацыю, якая абараняе людзей, што знаходзяцца ў турмах Беларусі. Яна бароніць правы сумлення. Калісьці мы шмат дапамагалі Міхасю Кукабаку. Ён у Беларусі, на жаль, малавядомы, але гэты чалавек у свой час дзейнічаў на ўзроўні такіх міжнародных дзеячаў за правы Свабоды, як, напрыклад, Сахараў.

У часы, калі кантакты з Беларуссю былі вельмі слабыя, мы рэпрэзентавалі Беларусь у вольным свеце. Прывяду ў прыклад толькі адзін факт. Наш удзел у 41-ым Эўхарыстычным кангрэсе ў Філадэльфіі ў 1976 годзе быў вельмі высока ацэнены міжнароднай супольнасцю. Пераклады божых службаў, малітваў, зробленыя Антонам Адамовічам, Язэпам Германовічам, Томасам Бэрдам, прадстаўленыя на кангрэсе, былі зроблены вельмі фахова.

БАЗА ўдзельнічае ў некаторых міжнародных арганізацыях. З нагоды святкавання 25-га Сакавіка мы пішам лісты да ўсіх нашых сенатараў, губернатараў, кангрэсменаў, лісты, у якіх высняем самую балючую праблему на Беларусі ў дадзены момант. Мы прымаем удзел у шматлікіх этнічных фестывалях. Нашы калектывы выступалі ў самых прэстыжных залах Амерыкі. Напрыклад, у Лінкольн Цэнтры выступалі — танцавальны гурт «Васілёк», Данчык, Валянціна Пархоменка.

Раней у Беларусі супраць нашых дзеячаў пісалі вельмі шмат усякай лухты. Ды і цяпер яшчэ пішуць. Таму ў нас ёсць арганізацыя, якая займаецца абаронай ад паклёпаў. Цяпер я рыхтую артыкул у абарону генерала Францішка Кушаля. У Беларусі з'явіліся публікацыі, што ў час нямецкай акупацыі Кушаль працаваў на бальшавікоў. Дык вось як яно было на самай справе, калі пачалася вайна, мяне выпусцілі з турмы і я прыйшоў у Менск. Мой стары калега з Віленскага універсітэта Вітаўт Тумаш быў старшынёй управы Менска. Мы сустрэліся і ён запрасіў мяне да сябе на абед. А за абедам прыгадалі Кушаля. «А ведаеш, — кажа Тумаш, — Кушаль жа тут. У Дорах сваіх сядзіць. І мы вырашылі прывезці яго ў Менск. Была думка, што, можа, і Арсеннева пагодзіцца

Крэскі жыцця

# БЦМ — ГЭТА ПОШУК!

***Зусім не мексіканскімі тэлесерыяламі пра ўладальніц Дома мадэляў мачаху Даніэлу і самаахвярную Марыю выклікана гэтая публікацыя. Найперш — тым незабыўным, хоць і неадназначным уражаннем, якое засталося ад, можна сказаць, выпадковага наведання Беларускага цэнтра моды ў час нядаўняга паказу мод «Вясна—лета-1994».***



Прыгажосць, элегантнасць, высакароднасць, вытанчаная прастата, дакладнасць ліній і яркія, сапраўды вяснова-летнія фарбы — запамінальныя складнікі амаль кожнай дэманстраванай мадэлі, што і было непазбежнай гарантыяй поспеху. Колькі было ўкладзена ў кожную мадэль натхнёнай працы, высокага майстэрства і, не пабаюся гэтага слова, — мастацтва! Гэта — з аднаго боку. А з другога... Зайшла пасля ў адзін, другі магазін. Увесь светлы і прыўзняты настрой знік імгненна. Тут пануе беднасць выбару, убоства фасонаў, шэрасць колераў, а часам і ўвогуле адсутнасць элементарнага эстэтычнага густу. А як бы хацелася ўсім нам зайсці ў спецыялізаваны магазін адзення і апрануцца там з галавы да ног, купіць простыя, зручныя, не надта дарагія, але дыхтоўныя, высокай якасці і, само сабою, модныя рэчы! Ды, на жаль, гэта пакуль што — з галіны фантастыкі.

Ды і ўвогуле — ці пра гэта сёння гаварыць? Хіба няма ў нас іншых, куды больш вострых і балючых праблем? Вядома ж, ёсць. Прытым процьма і самых розных. Рост цэн, зніжэнне жыццёвага ўзроўню насельніцтва, спад вытворчасці, нестабільнасць грашовага абарачэння, зніжэнне эстэтычнага ўзроўню людзей — ад усяго гэтага вунь які скрут у нашых галовах! А тут — раскошнае свята моды, чароўнасць музыкі, асляпляльныя ўсмешкі прыгажунь-манекеншчыц, вадаспад фантастычных колераў і адценняў, лёгкі, быццам пад вясновым ветрыкам, шоргат шоўку...

З такімі думкамі іду ў Беларускі цэнтр моды на сустрэчу з мастаком-мадэльерам Галінай Якаўлеўнай Мяшковай.

***Даведка.*** *Г.Мяшкова скончыла Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут /сённяшняя акадэмія мастацтваў/, факультэт дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва па спецыяльнасці мадэляванне швейных і трыкатажных вырабаў. Скончыла з чырвоным дыпломам. Акрамя асноўнай працы, выкладае праектаванне касцюма ў студыі дызайна, якая існуе пры БЦМ ад Беларускай акадэміі мастацтваў. Мае дачку Кацю, якая піша вершы /на беларускай мове/, друкуецца ў рэспубліканскім друку, у «Бібліятэцы «Маладосці» неўзабаве выйдзе яе першая кніжка.*

**— Спадарыня Галіна, дом, у якім вы працуеце, завецца ў народзе Домам мадэляў, нават прыпынак тралейбусны мае гэтую ж назву...**

— Гэта памылковая назва. Ужо мінула пяць гадоў — з 1988-га, як наш Дом мадэляўператварыўся ў Беларускі цэнтр моды — дзеля ажыццяўлення ў рэспубліцы адзінай асартыментнай палітыкі і забеспячэння комплекснага вырашэння пытанняў развіцця і павышэння ўзроўню якасці тавараў лёгкай прамысловасці...

***Даведка.*** *Створаны Дом мадэляў быў ажно ў далёкім пасляваенным 1948 годзе. Напачатку гэта была невялікая лабараторыя, у якой працавалі два дзесяткі чалавек. Але ўжо ў тым жа сорак восьмым годзе лабараторыя распрацавала і прапанавала вытворчасці 380 мадэляў адзення. Мадэляваннем тады займаліся і самі швейныя фабрыкі. У 1968 годзе быў уведзены ў эксплуатацыю новы будынак, плошчай 8 тысяч квадратных метраў, па адрасе праспект Машэрава, 1. Гэты адрас мае і сённяшні БЦМ.*

**— Спадарыня Галіна, якія галоўныя задачы стаяць сёння перад БЦМ?**

— Асноўная наша задача — распрацоўка прамысловых швейных вырабаў і тэхнічнай дакументацыі, стварэнне перспектыўных калекцый мадэляў адзення. Варта назваць і такую задачу, як выпуск асабліва модных вырабаў.

**— Такіх, якія мы бачылі на паказе «Вясна—лета-94»? Сапраўды, там былі самыя модныя рэчы. Якая элегантнасць колераў і фасонаў, якія смелыя і нечаканыя спалучэнні таноў і расфарбовак! Але, выбачайце, куды гэтак апранацца? І каму? Нованароджаным багацеям? Людзям з сярэднім заробкам /не кажу ўжо пра нізкааплачваемых/ такіх рэчаў, бадай, не купіць. А з другога боку, ці апраўдваецца, на ваш погляд, прымаўка «Сустракаюць па адзенні, а праводзяць па розуму»?**

— Галоўнае ў модзе — апранацца акуратна, аддаваць перавагу адзенню ў спакойным, некрыклівым стылі, мець пачуццё меры і густу. Часам бачыш, як у нашым наогул небагатым грамадстве жанчыны імкнуцца апранацца найперш эфектна. І што ў выніку? Тут і згадаеш гэтую самую прымаўку. Эфектна, але — безгустоўна і эклектычна. Абзавядзецца жанчынка якой-небудзь квятастай супер-блузкай, а потым, у дадатак, намагаецца падабраць да яе спадніцу ў клетку, бо клетка, ці бачыце, увайшла ў моду. Стараецца, здабывае тую спадніцу, а вынік — сумны...

**— Спадарыня Галіна, што вы мелі на ўвазе, калі гаварылі пра выпуск асабліва модных вырабаў?**

— У нас створаны патокі дробных, малых серый адзення — да 500 адзінак. Пры гэтым улічваецца канкурэнцыя рынку. Пры БЦМ ёсць фірменны салон-магазін, дзе прадаюцца гэтыя мадэлі. Ёсць і валютная секцыя.

**— Беларускі цэнтр моды распрацоўвае толькі мадэлі адзення? І хто гэтым канкрэтна займаецца?**

— Гэта памылковае ўяўленне, што мы займаемся толькі мадэляваннем адзення. БЦМ — мадэлюючы цэнтр для ўсіх прамысловых прадпрыемстваў краіны, уключаючы швейную вытворчасць, абутковую, тэкстыльную, галантарэйную і трыкатажную.

БЦМ праводзіць цэнтралізаванае кіраўніцтва модай. Усе спецыялісты мастацкага профілю прадпрыемстваў прыязджаюць да нас, і мы даём ім метадычныя рэкамендацыі па накірунках моды, інструкцыі па тэхналогіі швейных вырабаў, узоры мадэляў з тэхнічнай дакументацыяй, тэматычныя малюнкі, сімволіку і тэксты для афармлення вырабаў лёгкай прамысловасці, базавыя канструкцыі новых сілуэтных форм, шкалы даўжыні і памера-ростаў, уніфікацыі дэталяў і вузлоў.

У нас ёсць група перспектыўнага мадэлявання. Яна — сэрца нашага прадпрыемства. Галоўны мастацкі кіраўнік цэнтра — Уладзімір Васільевіч Булгакаў. Вядучы мастак — Ніна Асіпенка, мастакі — Вольга Ламака, Надзея Прышчэп і Жанна Гушча.

Ёсць у нас і трыкатажная група. Яе прадстаўляюць мастакі Маргарыта Сычова і Таццяна Цэрахава.

Усе гэтыя мастакі распрацоўваюць перспектыўную базавую калекцыю па сезонах. На аснове яе ствараюцца групы прамысловага мадэлявання.

**— Спадарыня Галіна, ці мае БЦМ выхад за межы Беларусі?**

— Так, наш цэнтр прымаў удзел у міжнародных выстаўках моды ў многіх краінах свету, у прыватнасці, у Францыі, Італіі, Японіі, Польшчы, Індыі. І, дарэчы, займалі там нашы мадэлі прызавыя месцы. Нашы дызайнеры запрашаліся на паказ калекцыі трэт-а-партэ, гэта значыць калекцыі, прызначанай для масавай публікі, а не элітарнай. Супрацоўнічаем мы і з замежнымі фірмамі, дзеля чаго маем аддзел па знешніх эканамічных сувязях. Тканіны для сваіх мадэляў мы часта купляем за мяжой за валюту, якую зарабляем у валютнай секцыі фірменнага магазіна-салона.

**— Нашы, айчынныя тканіны вас не задавальняюць ці іх проста не хапае?**

— Мушу прызнацца, што наша тэкстыльная прамысловасць, на жаль, не заўсёды дасягае сусветнага ўзроўню. Працуюць у нас і Магілёўскі шоўкавы камбінат, і Аршанскі льнокамбінат, і Мінскія камвольны і тонкасуконны камбінаты, і Гродзенскі тонкасуконны, але, што грахі ўтойваць, іх тканіны пакуль што горшыя за імпартныя. Практычна няма ў нас баваўняных тканін, няма сучасных фарбавальнікаў, пракладачных матэрыялаў. Усё гэта трэба везці з-за мяжы. Нават гузікаў няма — іх мы купляем у Расіі. Ды ці толькі гузікаў? Раней метадычным цэнтрам была Масква, адтуль мы атрымлівалі практычна ўсё неабходнае. Цяпер жа даводзіцца круціцца самім. Ну вось, скажам, каляровыя слайды. Дробязь, здавалася б, ды без іх не абысціся, а каштуюць яны надзвычай дорага. Вось і круцімся, шукаем рэзервы, каб не варыцца ва ўласным соку, каб годна, як кажуць, паказацца ў свеце.

Зрэшты, цяжкасці ў нас агульныя, тыя ж, што і ўва ўсёй краіне. Аднак стараемся працаваць без крэдытаў, беражом сваіх супрацоўнікаў — наш залаты фонд. Няма ў нас уласнай сыравіны, але ж затое ёсць выдатныя спецыялісты, кваліфікаваная рабочая сіла, і таму трэба скарыстоўваць гэты надзейны патэнцыял, а не завозіць тавары з-за мяжы. Ды хіба ж гэта тавары, якімі завалілі нас з Польшчы і Турцыі? Гэта ж, калі папраўдзе, транты, танны, грубы шырспажыў, разлічаны на самы непатрабавальны густ. Вельмі і вельмі шкада, што ў нас адчынены ўсе дзверы для завозу гэтага барахла, чым, вядома, наносіцца шкода і нам, мадэльерам.

**— Спадарыня Галіна, назва вашага прадпрыемства пачынаецца са слова беларускі. Наколькі яна апраўданая ў гэтым сэнсе?**

— Мы мяркуем, што апраўдваем сваё імя — імя менавіта беларускага цэнтра моды. І апраўдваем не толькі вонкава — скажам, выкарыстаннем у нашых мадэлях беларускага арнаменту, як гэта практыкавалася раней. Практычна мы заўсёды што-небудзь выкарыстоўваем з беларускага нацыянальнага касцюма, ніводная калекцыя не абыходзіцца без самых розных элементаў з беларускіх строяў. Ну, а што тычыцца вырабаў з лёну, дык тут без нацыянальных традыцый наогул аніяк нельга. Калекцыя з лёну Ніны Прышчэп, скажам, зрабіла ў Італіі сапраўдны фурор.

**— Спадарыня Галіна, дзе вы знаходзіце такіх чароўных манекеншчыц?**

— БЦМ супрацоўнічае з рэкламным агенцтвам Тамары Ганчаровай, якая ўзначальвае школу манекеншчыц. У школу набіраюцца дзяўчаты і хлопцы на конкурснай аснове ва ўзросце ад 17 да 27 гадоў. З дзяўчатамі праблем няма, хоць і атрымліваюць яны мізэрную, проста сімвалічную зарплату, працуюць больш на энтузіязме — ім падабаецца ездзіць па краіне і за мяжу. А вось з хлопцамі цяжэй, знайсці, заахвоціць іх не так і лёгка. У нас, дарэчы будзе сказаць, сярэдняя зарплата таксама не надта вялікая, прынамсі, куды меншая, чым у банкаўскіх служачых.

**— І апошняе пытанне, спадарыня Галіна. Што будзе модна ў наступным сезоне?**

— Мода ўжо не ўпершыню намагаецца кампенсаваць наш унутраны дыскамфорт. Вось і ў будучым вясенне-летнім сезоне мы хочам дапамагчы нашым спажыўцам стварыць спакойны, лёгкі настрой. Пэўна, нездарма мода вяртаецца да добрых мінулых часоў. Вызначальныя яе рысы — прастата і непасрэднасць, адзінства формы і функцыі, элегантнасць і вонкавая стрыманасць. Захапленне мініспадніцамі праходзіць свой пік. Карацей кажучы, новая работы дызайнераў цэнтра фарміруе вобраз сучаснага чалавека — мужчыны і, вядома ж, жанчыны: дагледжанай, упэўненай у сабе, падцягнутай, з грацыёзнай паходкай, не пазбаўленай стрыманай арыстакратычнай жаноцкасці.

Характэрная адметнасць будучай калекцыі ў тым, што яна выканана з айчынных тканін і матэрыялаў. А кожная мадэль — гэта мадэль-вобраз, мадэль-ідэя, на аснове якіх можна ствараць серыі мадэляў, праектаваць прамысловыя калекцыі для нашых швейных прадпрыемстваў.

**— Дзякуй, спадарыня Галіна, за гутарку!**

**Інтэрв'ю брала М.МІХАЙЛАВА**


**ЛіМ**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**ГАЗЕТУ РЭДАГАВАЛІ:**

| | |
|---|---|
| Х.ДУНЕЦ | (1932-35) |
| І.ГУРСКІ | (1935-41) |
| А.КУЛЯШОЎ | (1945-46) |
| М.ГОРЦАЎ | (1947-49) |
| П.КАВАЛЁЎ | (1949-50) |
| В.ВІТКА | (1951-57) |
| М.ТКАЧОЎ | (1957-59) |
| Я.ШАРАХОЎСКІ | (1959-61) |
| Н.ПАШКЕВІЧ | (1961-69) |
| Л.ПРОКША | (1969-72) |
| Х.ЖЫЧКА | (1972-76) |
| А.АСІПЕНКА | (1976-80) |
| А.ЖУК | (1980-86) |
| А.ВЯРЦІНСКІ | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Юрась ЗАЛОСКА, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Барыс ПЯТРОВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), Юрась СВІРКА**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

**Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі -- 33-24-61; намеснікі галоўнага рэдактара -- 33-25-25; 33-19-85; аддзелы: публіцыстыкі -- 33-25-25, пісьмаў і грамадскай думкі -- 33-19-85, літаратурнага жыцця -- 33-24-62, крытыкі і бібліяграфіі -- 33-22-04, паэзіі і прозы -- 33-22-04, музыкі -- 33-21-53, тэатра, кіно і тэлебачання -- 33-21-53, выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- 33-24-62, навін -- 33-19-85, мастацкага афармлення -- 33-24-62; фотакарэспандэнт -- 33-24-62; бухгалтэрыя -- 26-86-40.**





**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах**

**Друкарня "Беларускі Дом друку"**

**Індэкс 63856. Тыраж 15.000. Нумар падпісаны 24.06.1993 г.**

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12